

Словы сярод сваіх➔3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714



Прасторы Маргарыты➔5

http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 20 (3131) Год LXI Беласток, 15 мая 2016 г. Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)

**У Белавежскай пушчы, канкрэтна ў Белавежскім надлясніцтве, прадпрыемствы лясных паслуг правялі большую высечку елак, у якіх пасяліліся караеды і іх знішчылі. Высечка яліны адбылася, між іншым, у прыдарожнай паласе каля шашы з Гайнаўкі ў Белавежу і праходзіць згодна з рашэннем міністра асяроддзя Яна Шышкі і пастановай Генеральнай дырэкцыі Дзяржаўных лясоў у канцы сакавіка гэтага года. Аднак працы па высечцы хутка спыніліся, бо ў птушак распачаўся перыяд гнездавання і выседжвання.**



# Ці выжыць пушчы з караедамі?

Павалены лес каля ваяводскай дарогі з Гайнаўкі ў Белавежу

У адпаведнасці з законам высечка дрэў у лясах і нават на прыватных панадворках у гэтым часе забаронена. Белавежскае надлясніцтва прадбачвае працягваць высечку, калі закончыцца перыяд аховы птушанят. Некаторыя няўрадавыя арганізацыі падалі скаргу ў Еўрапейскую камісію на павялічаную высечку яліны ў Белавежскім надлясніцтве, бо лічаць, што новы дазвол супярэчыць адпаведным законам Еўрасаюза ў справе аховы лясоў. Гайнаўскі надляснічы Рыгор Бялецкі нядаўна часова забараніў уваход у Белавежскую пушчу на тэрыторыі Гайнаўскага надлясніцтва.

У мінулым кіраўніцтва Дзяржаўных лясоў прыняло да выканання пастановы аб абмежаванні колькасці драўніны, якую можна атрымаць ад гаспадарчага выкарыстання Белавежскай пушчы ў надлясніцтвах Белавежа, Броўск і Гайнаўка. Усе тры надлясніцтвы ссякалі дагэтуль елкі заражаныя караедамі згодна з дазволамі, якія атрымалі пры складанні дзесяцігадовага плана ўпарадкавання Белавежскай пушчы. Белавежскае надлясніцтва амаль да канца выкарыстала аб'ём драўніны прадбачанай для вывазу з пушчы на працягу дзесяцігадоў і выступіла з просьбай пабольшаць ліміт высечкі дрэў у бягучым дзесяцігоддзі. Міністр асяроддзя Ян Шышка паведаміў, што ў Белавежскім надлясніцтве дазволіць павялічыць аб'ём вывазу драўніны ў бягучым дзесяцігоддзі і рашыўся стварыць рэферэнцыйныя анклавы ў надлясніцтвах Белавежа і Броўск, у якіх амаль цалкам будзе забаронена высечка драўніны. 31 сакавіка Генеральная дырэкцыя Дзяржаўных лясоў у Польшчы зацвердзіла сказанае міністрам адпаведнымі пастановамі і хутка пасля гэтага распачалася больш інтэнсіўная высечка заражаных караедамі елак у Белавежскім надлясніцтве і прадбачваецца працяг гэтых прац.

— Дагэтуль высечка дрэў адбывалася перш за ўсё ў паласе вакол дарогі Белавежа — Гайнаўка і вакол турыстычных шляхоў, каб пазбегнуць нешчаслівых выпадкаў, калі сухое дрэва ўпадзе на дарогу ці на лясныя дарожкі, па якіх перамяшчаюцца мясцовыя жыхары і турысты. Работы спыніліся з-за перыяду гнездавання і выседжвання, але пасля высечка елак будзе прадаўжацца. Былі выпадкі, нават нядаўна, калі сухія дрэвы падалі на шашу з Белавежы ў Гайнаўку, але шчасліва не спрычыніліся да трагічных здарэнняў. Перш за ўсё з-за бяспекі трэба ссякаць сухія дрэвы. Мне не падабаецца краявід вакол дарогі ў Гайнаўку. Пасля зімы пушча яшчэ не была зялёнай і з паваленымі дрэвамі краявід вакол дарогі быў непрыгожы, аб чым гаварылі жыхары нашай гміны. Сухія дрэвы маглі ж спрычыніцца да дарожнай аварыі, напрыклад такой, якая была нядаўна на дарозе з Гайнаўкі ў Бельск-Падляшскі, калі сухое дрэва ўпала на дарогу і спрычынілася да смерці мужчыны, якога бацька ў мінулым жыў у Белавежы, — сказаў войт Белавежскай гміны Рыгор Каспровіч. — Аднак я не эколаг і не спецыяліст па ахове лесу таму складана мне ацаніць рашэнне міністра асяроддзя Яна Шышкі і генеральнага дырэктара Дзяржаўных лясоў Конрада Тамашэўскага ў справе павелічэння ліміту на высечку дрэў і вываз драўніны з Белавежскага надлясніцтва да ўзроўню 180 тысяч кубаметраў на працягу бягучай дзесяцігодкі і ў справе стварэння рэферэнцыйных зон у Белавежскім надлясніцтве да ўзроўню больш за 4 тысячы гектараў лесу і ў Броўскім надлясніцтве да звыш тысячы чатырохсот гектараў лесу, дзе амаль не будзе весціся высечка дрэў. У гэтай справе я гаварыў з генеральным дырэктарам Дзяржаўных лясоў Конрадам Тамашэўскім і ён завяраў, што нашым жыхарам і турыстам можна будзе ўваходзіць на тэрыторыю рэферэнцыйных зон і збіраць грыбы, ягады. Аднак там будуць падаць на зямлю сухія дрэвы і не ведаю, як будзе вырашана справа бяспекі людзей, на якіх там можа зваліцца сухое дрэва. Паявіліся таксама чуткі, што Рада Белавежскай гміны выступіла з пратэстам у справе стварэння рэферэнцыйных зон, але на апошняй сесіі нашай Рады гэтае пытанне не ставілася, а справы стварэння рэферэнцыйных зон у нашай гміне могуць разглядацца толькі падчас бліжэйшай сесіі. Тэкст пратэсту ў справе стварэння рэферэнцыйных зон у нашай гміне быў прыняты падчас сустрэчы старшынь камісій нашай Рады і віцэ-старшыні Рады Альжбеты Ляпрус. Тэкст пратэсту быў перададзены міністру асяроддзя Яну Шышку.

— Пастанова міністра асяроддзя ў справе высечкі елак у Белавежскай пушчы добрая, але спозненая, бо калі б такое рашэнне было раней, то ўдалося б выратаваць больш яліны. Зараз ссякаліся ў галоўным елкі з караедамі, але яшчэ цалкам не засохлыя. Засохлыя елкі высякалі там, дзе яны пагражалі бяспецы людзей. Стварэнне рэферэнцыйных зон у Белавежскім надлясніцтве плошчаю ў больш за чатыры тысячы гектараў і ў нашым Броўскім надлясніцтве плошчаю ў больш за адну тысячу чатырохсот гектараў, на якіх не будзе весціся гаспадарчая дзейнасць, было кампрамісам паміж асобамі, якія патрабуюць аховы нашай пушчы без яе гаспадарчага выкарыстання, і ляснойадміністрацыяй. Гэтае рашэнне не перашкаджае мясцоваму насельніцтву збіраць грыбы і ягады. Дзяржаўныя лясы заяўляюць, што будуць высякаць толькі сухія дрэвы, якія пагражаюць бяспецы людзей. У будучыні ў рэферэнцыйных зонах можна будзе ўбачыць, як Белавежская пушча выглядала б, калі б не было барацьбы з караедамі і высечкі заражаных імі дрэў на іншых участках Дзяржаўных лясоў, — заявіў войт Нараўчанскай гміны Мікола Павільч.

— Я станоўча ацэньваю рашэнне міністра асяроддзя Яна Шышкі і пазнейшую пастанову Генеральнай дырэкцыі Дзяржаўных лясоў у справе павелічэння ліміту высечкі дрэў у Белавежскім надлясніцтве, бо там караеды знішчылі асабліва многа дрэў. У Гайнаўскім і Броўскім надлясніцтвах яшчэ не выкарыстаны ліміты вывазу драўніны на працягу бягучай дзесяцігодкі. Трэба ратаваць Белавежскую пушчу перад яе знішчэннем караедамі і ссякаць засохлыя елкі, якія пагражаюць бяспецы людзей і могуць спрычыніцца да калецтва або смерці. Цяпер многа дрэў ссякалі пры дарозе з Гайнаўкі ў Белавежу і яны будуць прададзены з аўкцыёна. Нашы жыхары, так як іншыя прыватныя асобы і суполкі з Польшчы, могуць прыступіць да аўкцыёна і купіць знішчаную караедамі яліну і выкарыстаць яе на свае патрэбы. Прыватныя асобы могуць гэтай драўнінай абаграваць дамы, а суполкі могуць яе перарабіць згодна са сваімі патрэбамі, — сказала войт Гайнаўскай гміны Люцына Смактуновіч. — Нам актывісты экалагічных арганізацый гавораць, што яшчэ не было такога выпадку, каб сухое дрэва ў пушчы забіла чалавека, а мы кажам, што нельга чакаць бяздзейна аж сухое дрэва спрычыніцца да трывалага калецтва або смерці. Калі я ехала з Гайнаўкі ў Белавежу, налева ад шашы ўбачыла многа паваленых дрэў. Добра, што якраз вецер паваліў іх не на дарогу, а на супрацьлеглы бок, далей ад дарогі, бо дрэвы маглі б давесці да дарожнай аварыі на ваяводскай дарозе.

— Добра, што міністр асяроддзя Ян Шышка слухае голасу мясцовага насельніцтва і ўлічвае яго прапановы. Міністр глядзіць у будучыню і я думаю, што прыйдзе час, калі Лясны прамацыйны комплекс Белавежскай пушчы, дзе між іншым адбываецца высечка елак, будзе прыгожым лесам, — заявіў бургамістр Гайнаўкі Ежы Сірак.

— Асабліва важная высечка сухіх елак вакол ваяводскай дарогі з Гайнаўкі ў Белавежу, каля сцяжынак і ў іншых пушчанскіх месцах, бо такія дрэвы пагражаюць бяспецы мясцовых жыхароў і турыстаў, — заявіў гайнаўскі староста Міраслаў Раманюк.

Запрэзентаваў я выказванні войтаў, бургамістра і старасты — выканаўчых органаў мясцовых самаўрадаў, на тэрыторыі якіх распаложана Белавежская пушча. Ёсць таксама асобы, якія супрацíўляюцца высечцы заражаных караедамі елак. Пратэставалі яны ў Белавежы, у іншых месцах Белавежскай пушчы і ў Варшаве, каб забараніць гаспадарчае выкарыстанне Белавежскай пушчы. Некаторыя экалагічныя арганізацыі падалі скаргу ў Еўрапейскую камісію. Лічаць яны, што дазвол на высечку большай колькасці елак у пушчы, чым прадбачвалі ранейшыя ліміты, супярэчыць еўрасаюзным законам па ахове лясоў. Гайнаўскі надляснічы Рыгор Бялецкі нядаўна часова забараніў уваходзіць у Белавежскую пушчу на сваёй тэрыторыі. Гайнаўскае надлясніцтва тлумачыць, што вялікая колькасць мёртвых дрэў, знішчаных караедамі, пагражае здароўю і жыццю людзей ды іх маёмасці.

Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА





# Кірунак

Гарадзенскі гарадскі аўтобус спыніўся на прыпынку. З яго выйшаў мужчына і прапанаваў свой квіток на праезд сталага веку жанчыне, якая акурат у аўтобус заходзіла.

— У мяне бясплатны праезд, — растлумачыла сваю адмову ўзяць квіток жанчына. — У мяне група. Езджу задарма. Дайце каму так. Мне непатрэбны. Але ўсё адно вялікі дзякуй.

Квіток дастаўся маладой дзяўчыне. А жанчына з правам бясплатнага праезду, вельмі ўсцешаная самім фактам чалавечай добразычлівасці, з усмешкай на твары села побач са мной.

— Добрыя ў Беларусі людзі, — сказала яна ні то мне, ні то ўсяму аўтобусу. — Я то сама родам з Расіі. Але ўжо даўно жыву тут. Вельмі мне вашы людзі падабаюцца. Я як паеду да радні на радзіму, як распавяду пра вашых людзей, дык мне ніхто не верыць. Кажуць, што я прыдзіцінела на старасці гадоў. Нібыта выдаю жаданае за сапраўднасць. Там чамусьці лічаць, што толькі яны добрыя. А чым далей на захад, тым людзі ўсё злейшыя ды злейшыя. А я то ведаю што гэта не так. Я шмат па свеце паездзіла і магла на свае вочы ў тым пераканацца.

— А дзе пабывалі? — вырашыў я падтрымаць размову. Ды і самому цікава стала, як нас, беларусаў, ацэньваюць іншыя людзі.

— А шмат дзе была, — узрадавалася жанчына мажлівасці выгаварыцца. — Першы раз за мяжу я папала яшчэ тады, калі нашы людзі патрапіць туды маглі толькі на танку. — І сама ўсміхнулася з даўно забытага жарту часоў Савецкага Саюза. — Я была жонкай савецкага афіцэра-танкіста. Наша вайсковая частка стаяла ў маленькім нямецкім гарадку. Тады ж Нямеччыны былі дзве. Адна наша, а другая сама па сабе.

— Ведаю, я гісторык, — ветліва перабіў яе я, каб яна не адхілілася ад той тэмы, якая мяне зацікавіла, пра людзей. — І якія там людзі?

— Добрыя, — уздыхнула яна. — Вельмі добрыя. Хоць і называлі нас рускімі свіннямі, але гэта не ад злосці. А ад таго, што ў нас заўсёды было брудна. А ў іх чыста. Я была сакратаром камсамольскай арганізацыі. Ну дык на мне вісеў абавязак арганізоўваць суботнікі па ўборцы гарадскога квартала, дзе жылі нашы афіцэры. Ой як цяжка было сабраць іх жонак на такую працу. Салдат то было забаронена ў горад выпускаць. Частка то была сакрэтная, як і ўсё ў СССР. Добра, калі ўдавалася пятую частку тых жонак ды цешчаў загітаваць прыбраць за сабой. А немцы як убачаць, што мы ўборкай нарэшце заняліся, то ўсе ляцяць дапамагаць нам. І агітаваць нікога не трэба. Дапамагалі ад душы, ад шчырага сэрца. Я тады ўбачыла, што і яны добрыя. Цешыліся кожнаму прыбранаму метру. А асабліва таму, што мы справай заняліся. За нас радаваліся. Толькі ўсё дарма было, бо праз дзень у нас зноў усё засмечана, як бы ніхто і не прыбіраў. А ў іх чыста. І суботнікаў ніякіх не было, а ўсё адно чыста. Праўда, пазней і яны, на нас гледзячы, ужо пачалі смецце кідаць чым далей ад сметніцы. Маладыя перш за ўсё. Ужо гэта быў гонар.

— Вы хочаце сказаць, што кепскі прыклад больш заразлівы чым добры?

— А як жа ж. І яны маглі стаць савецкімі. Добра што не паспелі. Вось, прыкладам, дэфіцыт. У іх ён тады таксама быў, як і ў нас. Тавараў на ўсіх не хапала. Строй то аднолькавы быў. Сацыялізм. Толькі немцы дэфіцытны тавар не хавалі, як саветы. Прыйшло, прыкладам, дзесяць пар жаночых ботаў, ну то першыя дзесяць жанчын з чаргі іх і атрымаюць. А савецкія афіцэры навучылі іх гэты тавар хаваць і прадаваць ужо левым шляхам ды з карысцю для сябе. І ўжо немка не магла купіць ботаў па-чэснаму. Трэба ўжо было дамаўляцца па-нашаму. Па-савецку.

— Вельмі цікава, — усё больш інтрыгуюся я. — Я нешта падобнае назіраў як служыў у Чэхаславакіі. Але давайце пра беларусаў. Бо з іх мы пачалі нашу размову. Як вы думаеце, мы рухаемся ў еўрапейскім кірунку, ці як некаторыя сцвярджаюць, што ў савецкім?

— Ну канешне ў еўрапейскім.

— А скуль вы гэта ўзялі?

— Бо як заходзіла ў аўтобус, незнаёмы мужчына прапанаваў непатрэбны яму ўжо квіток мне задарма. Па дабрацэ сваёй. Вось калі ён будзе прапаноўваць выкарыстаны квіток за палову кошту, вось тады кірунак будзе адваротны. А пакуль яшчэ еўрапейскі.

Віктар САЗОНАЎ

# Каму павага?



Прэзідэнт Анджэй Дуда адправіўся ў нядзелю з афіцыйным візітам у Канаду. У той жа час былі эвакуіраваны з месца жыхарства больш чым сто тысяч канадскіх грамадзян. Ні ў якім разе, аднак, з-за візіту прэзідэнта Польшчы. Канада гарыць па прычыне структурнай засухі. Гігнцкія пажары спасціглі некалькі правінцый. Канадцы моляцца аб даждж! Паміж імі таксама прэм'ер-міністр Канады Джасцін Трудо, з якім Анджэй Дуда мае паразмаўляць аб ліпеньскім саміце НАТА ў Варшаве і польскіх інвестыцыях у Канадзе. Ах, хай бы пайшоў гэты дождж...

Вышэйпрыведзеныя мною факты ніякім чынам між сабою не звязаны. Злучае іх толькі парадак навін, якія паступаюць у інтэрнэт цуркам без папярэдняга адбору з агенцтваў па ўсім свеце. І так, побач з інфармацыяй пра стан зубоў адной знакамітасці ставіцца цытата з польскага прэзідэнта, які прыхільнікаў Камітэта па абароне дэмакратыі (КОД) называе грамадзянамі другога гатунку. У тым святле факты, як казаў таварыш Сталін, дурныя! Справа ў тым, што выпадкова размешчаны побач сябе, выяўляюць невядомы твар рэальнасці. Часта — і тут не крыўдуйце, калі ласка, — гаўнянай рэальнасці.

Існуе народная прытча аб запальчывым селяніне, які абкінуў каровіным лайном прыдарожную статую святога з-за таго, што нібыта не заступіўся за яго ў Бога. З часам абпэцканую фігуру апаласнулі ласкавыя дажджы, але ў памяці народу той святы застаўся назаўсёды... гаўняным. Хтосьці хацеў бы спытаць, пры чым тут гэта? Як да нявіннага святога маецца фігурка, якога яна прадстаўляе? Усё ж, мае адносіны. Так мы ўспрымаем рэальнасць, як яе бачым. Бачыць, аднак, гэта не значыць ведаць.

Цяперашняя ўлада ў Польшчы паводзіць сябе, на жаль, як запальчывы мужык у прытчы. Брудных паклёпаў і злосных падтэкстаў, якімі проста абляпліваць палітычных праціўнікаў, немагчыма тут пералічыць. Але хтосьці дае ім веру, хтосьці іншы абураецца на іх нахабную ілжывасць. Хтосьці, нарэшце, прыдурак. Адно пытанне, хто?

Падчас нядзельнага матчу варшаўскай «Легіі» супраць «Пяста» з Глівіц сярод прыхільнікаў першага з'явіўся вялікі банэр: «**KOD, Nowoczesna, GW, Lis, Olejnik i inne ladacznice — dla was nie będzie gwizdów, będą szubienice**». Заўзятары як заўзятары. Надпіс як надпіс. На мурах паяўляецца і доўга застаецца беспакараным яшчэ горш дурное плявузганне. Але супердурноццем у квадраце з'яўляецца «маўклівы» дазвол. Ананімны. Атрутна баязлівы. Безасабовы. Але ж прыхільнікаў гадкіх надпісаў лёгка выкарыстаць.

Рафал Вуйцікоўскі, дэпутат нешчаслівага для Рэчы Паспалітай Сейма VIII склікання, доктар эканамічных навук, член клуба «Кукіз'15», так пракаментаваў у фейсбуку банэр нянавісці: «Тое што зрабілі фанаты „Легіі" закранула маё заўзятарскае сэрца. Упершыню ў маім жыцці — павага заўзятарам „Легіі"». Праз некалькі гадзін Вуйцікоўскі скандальны пост выдаліў. Тумакі, верагодна, дастаў ад свайго шэфа, Паўла Кукіза, якому выкрышваюцца калегі па партыі. У апошні час адышло з ягонага парламенцкага клуба чатырох.

Заўзятарскі транспарант меў быць адказам на той факт, што падчас нядаўняга фінальнага матча за Кубак Польшчы частка іншых фанатаў асвістала прысутнага на трыбунах прэзідэнта Дуду. Іншая справа, што на публічнае вывешванне скандальных тэкстаў не рэагавалі праваахоўныя органы, хоць гэта было яўнае падбухторванне да нянавісці — а гэта ж крымінальнае злачынства. Хоць паліцыя заявіла аб сваёй гатоўнасці прыцягнуць да адказнасці вінаватых у гэтым злачынстве асоб, але толькі па просьбе пацярпелых. Толькі ці хтосьці з іх схоча гэтым затлумляцца? Ліс і Алейнік прывыклі ўжо да абраз. Святымі, дарэчы, ніколі не былі. Журналісты «Выбарчай газеты» таксама. А прыхільнікі КОД? Колькі іх — сотні, тысячы, мільёны?

З гэтым сапраўды турботна. Па словах падлізніцкіх цяперашняй уладзе СМІ ў варшаўскім маршы прыхільнікаў КОД, які адбыўся 7 траўня, прайшло 45 200 чалавек. Па словах сталічнай мэрыі — 240 тысяч. Тым не менш абедзве ацэнкі памылковыя. Ніхто не палічыў майго знаёмага, чалавека кволага целаскладу, але нязломнага характару і вялікага духу. Ён амаль непрыкметны, так што цяжка яго палічыць. Ён не мае часу, каб праследаваць тых, хто абкідае яго дзярмом. Але, як кажа, ніколі не пагодзіцца, каб хтосьці беспакарана аплёўваў тое, што з'яўляецца святым.

Міраслаў ГРЫКА



## Вачыма еўрапейца

# Сумесная камісія ў Палацы

— Польшча з'яўляецца паслядоўнай і аднароднай дзяржавай, няма ў нашай краіне ніякіх канфліктаў па нацыянальнай ці этнічнай прыналежнасці. Я заўсёды буду пратэставаць супраць таго, каб у Польшчы з'явіліся шавінізм ці фобіі ў адносінах да нацыянальнасцей, — сказаў прэзідэнт Анджэй Дуда 26 красавіка ў Прэзідэнцкім палацы, дзе ён сустрэўся з членамі Сумеснай камісіі ўрада і нацыянальных і этнічных меншасцей. Гэта была першая такая вялікая сустрэча з меншасцямі, праўжываючымі ў Польшчы. Як паведамляе Польскае агенцтва друку, у сваім выступе прэзідэнт падкрэсліў, што яго важнай задачай з'яўляецца «будаванне і ўмацаванне супольнасці»: «Я часта кажу пра Польшчу, палякаў, народ. Але я хацеў бы, каб вы зразумелі, а гэта хачу асабліва падкрэсліць, што я, прымяняючы гэтыя словы, гавару якраз пра супольнасць. Адной з найбольшых каштоўнасцей — у сэнсе дзяржаватворчым — з'яўляецца тое, што Польшча гэта краіна кагерэнтная і ўнітарная, што няма ў нашай краіне — дзякуй Богу — ніякіх канфліктаў на нацыянальнай ці этнічнай глебе». Прэзідэнт падкрэсліў неабходнасць павагі для культурных адрозненняў, таму што «яны будавалі культуру, якая сёння шырока называецца польскай культурай». Сказаў, што хацеў бы, каб асобы, якія належаць да нацыянальных і этнічных меншасцей, былі амбасадарамі Польшчы і будавалі яе добры імідж за мяжой. «Дзякуем за ваш уклад у развіццё нашай краіны, які ад пакаленняў уносіце, і хачу сказаць: Рэч Паспалітая вам, як грамадзянам і пакаленням вашых сем'яў, вельмі ўдзячная таму, што многа супольнай крыві напаіла гэтую зямлю для таго, каб Польшча магла існаваць, і яна — наша супольная», — падкрэсліў прэзідэнт.

У Сумеснай камісіі беларускую меншасць прадстаўляюць Славамір Іванюк (Беларускі саюз у Польшчы) і Ян Сычэўскі (Беларуская грамадска-культурнае таварыства). Пасля сустрэчы Ян Сычэўскі ў гутарцы са мной сказаў: «У мяне склалася ўражанне пасля гэтай сустрэчы добрае, нават вельмі добрае. Яна была ініцыявана больш у працоўным, чым афіцыйным вымярэнні. Да гэтага часу такія сустрэчы мелі цырыманіяльны, фармальны, дыпламатычны характар, дзе пратакол загадзя прадугледжваў выступленне прэзідэнта і толькі сустаршыні Сумеснай камісіі з боку меншасцей. На гэты раз голас маглі ўзяць усе, а не толькі сустаршыня з нашага боку. Выступленне прэзідэнта Анджэя Дуды адрознівалася ад дасюлешніх прамоў папярэдніх прэзідэнтаў. Мела яно цёплы, людскі характар, зрабіла нават уражанне даволі паўпрыватнага. Калі прыняць тое, што заявы прэзідэнта былі выказаны са шчырымі матывамі, можна гэтаму толькі апладзіраваць. Усё залежыць ад таго, як яно будзе рэалізавацца на практыцы. Пераканаўча тлумачыўся, чаму не падпісаў папраўкі да закона аб меншасцях. Выказаў упэўненасць у тым, што папраўка да гэтай навелізацыі будзе мець месца, а затым ён падпіша яе. Заявіў, што яго Палац адкрыты ў любы час для прадстаўнікоў меншасцей, таксама ў рэжыме індывідуальных сустрэч».

Славамір Іванюк заўважыў: «Гэта была сустрэча, каб мы маглі пазнаёміцца, каб у цэлым меншасці маглі пазнаёміць прэзідэнта са сваімі праблемамі, а не для ўрэгулявання нейкіх пытанняў. Прэзідэнт аказаўся вельмі камунікабельным чалавекам, непасрэдным. Прагучалі выразныя словы падтрымкі і вельмі важныя, якія, на жаль, вельмі рэдка гучаць з боку розных палітыкаў на цэнтральным і мясцовым узроўнях, што прэзідэнт выказваецца супраць шавінізму, а нацыянальныя і этнічныя меншасці ўспрымае ў духу Канстытуцыі».

Немцы і украінцы падчас выступаў звярталіся з выклікаючымі часам спрэчкі і напружанасць праблемамі з мінулага, асабліва з ваеннага і пасляваеннага перыяду. Беларускія прадстаўнікі Сумеснай камісіі па гэтым пытанні маўчалі. Як я даведаўся, ні прэзідэнт, ні прадстаўнікі меншасцей не выступілі, аднак, з прапановай увядзення меншасцей у дэбаты аб польскай гістарычнай палітыцы, якая некалькі тыдняў таму ўпершыню стала прадметам сустрэчы Нацыянальнай рады развіцця — прэзідэнцкага кансультатыўна-дарадчага органа і гэты тэматычны абшар уведзены ў поле яе дзейнасці. Гэтымі пытаннямі займаецца адна з яе дзесяці пастаянных секцый: «Культура, нацыянальная ідэнтычнасць, гістарычная палітыка». Але, магчыма, гэтыя пытанні будуць абмяркоўвацца ў больш індывідуальных кантактах, а гэты першы не быў, усё-такі, добрай (зручнай) нагодай для гэтага. З такой ініцыятывай мог бы выступіць сам прэзідэнт.

Мацей ХАЛАДОЎСКІ

# Міхнаўка. Словы сярод сваіх



Тадэвуш Кунцэвіч, Кастусь і Ян Целушэцкія, Вера Радзіванюк



— На ніўскім конкурсе „Дэбют" тры гады таму было двое дэбютантаў з Ляўкова — Юлька Лясота і я, — успамінаў Кастусь Целушэцкі з Новага Ляўкова. — Смяяўся я: „Ты дэбютуеш у сем гадоў, я ў семдзесят!"... Я пісаць пачаў даўно. Па-польску і па-беларуску. Запісаў успаміны: *Moja żona jest wesoła, piękna, zdrowa i morowa*. Гэта для ўнукаў, успамін пра дзеда і бабцю: як жылося, будавалася, гадавалася. Як пішацца мне, немаладому чалавеку.

Кастусь. Майстар на ўсе рукі — сталяр, гаспадар і мастак у драўніне пачаў пісаць нядаўна, як толькі пачаўся той асаблівы паэтычны зрух у Нараўчанскай гміне. І ўвесь амаль дзясятак народных аўтараў, якіх сабрала пад сваімі крыламі ў той час кіраўнік стараляўкоўскай самаўрадавай святліцы, цяпер дырэктарка Гміннага цэнтра культуры ў Нараўцы Галена-Марыёля Рэент, разам з Кастусём Целушэцкім, якога дом стаіць пасярод гміны, стаў вядомы з аўтарскіх сустрэч не толькі ў Нараўчанскай гміне.

Вялікі мураваны з ляўкоўскай цэглы трохпавярховы дом стаіць на раз'ездзе дарог у Нараўку і Бандары. На гэтым падворку, дзе стаіць Кастусёва хата, у суседняй драўлянай хатцы жылі бацькі Кастусёвы — таксама Кастусь і Марыя, а ўсіх дзяцей у Целушэцкіх было чацвёра, а трое яшчэ ўмерлі. Найстарэйшы ўрадзіўся ў час вайны, калі маці выбягала да ямаў, хаваліся ад немцаў, ад самалётаў... Дом — гэта

**самы відны твор**

Кастуся Целушэцкага. І іншымі творамі можа пахваліцца — з жонкай Марысяй трое дзяцей маюць, чатырох унукаў: тры ўнучкі і ўнука. Найстарэйшаму ў чэрвені будзе ўжо 24 гады! Гэта з ім дзед Кастусь на рыбу ездзіць. І для меншых дзяцей дзед Кастусь піша. Першы надрукаваны Кастусёў верш быў у „Зорцы" — пра яблыньку і дзеда, які можа і не спадзяецца з'есці з яе плады. Усё Ляўкова цешылася — сусед свой верш надрукаваў! А цяпер у Кастуся свая цэлая кніга твораў — „Сярод сваіх" — том вершаў, якую памаглі яму выдаць Згуртаванне вёскі Міхнаўкі і ваколіц „Сторчык" («Ятрышнік») і ГЦК у Нараўцы.

„Дзе ў нас на Беласточчыне найбольшая шчыльнасць паэтаў на квадратным кіламетр? — У Нараўчанскай гміне". Гэта не жарт, а праўда. Нават калі лічыць паэтаў ужо вядомых, гэта значыць тых, якіх вершы друкуюцца, і пра якіх ведаюць людзі. А пра іх ужо ведае Галена-Марыёля Рэент, а яшчэ і яшчэ пару „кропак", дзе жывуць паэты не цалкам паэтычным жыццём. І не заўсёды запісваюць свае роздумы, або складваюць свае запіскі ў стол, часам закрыты на асабісты ключык. Або вершам паэт такі гаворыць, замест прозай, як спадар Ярашук з Навін, але не кожнаму скажа, не перад кожным раскрыецца. Але ўдаецца спадарыні Марыёлі дайсці амаль да ўсіх, і сабраць іх перад публікай. А публіка ахвотна прыходзіць на такія мерапрыемствы без «прытупу» ў святліцах Нараўчанскай гміны. І запрашаюць іх яшчэ і яшчэ з новымі вершамі. Сваімі творцамі ганарыцца кожная вёска, дзе жыве паэт, або і не адзін паэт, бывае, што ва ўзросце дзеда і ўнука. Такім пунктам з'яўляюцца між іншым Старое і Новае Ляўкова. Адна з першых сустрэч у Старым Ляўкове ў студзеньскі вечар была таксама нагодай да ўспаміну пра памерлага іхняга суседа, паэта-белавежца з тарнопальскага хутара Полымя Уладзіміра Гайдука, пахаванага на ляўкоўскім могільніку. Ягонымі вершамі пачалася і кончылася сустрэча, давёўшы да вялікага хвалявання, а нават слёз сярод публікі, асабліва ягоны верш напісаны маці. „Валодзя быццам быў тут з намі", — казалі жанчыны. Сярод публікі паявіліся тады таксама маладыя аўтаркі — Юля Лясота і Вікторыя Патонец, якія таксама прымаюць удзел у літаратурных конкурсах і падтрымліваюць паэтычную традыцыю Нараўчанскай зямлі. Такія сустрэчы для аўтараў бываюць таксама натхненнем. Пасля ляўкоўскай, нараўчанскай, семяноўскай, альхоўскай, бабіграскай... сустрэч узніклі новыя вершы, якія пераклікаюцца з творамі калег. Аўтары ўжо паміж сабою дамаўляюцца на наступныя спатканні...

Першым з гэтай грамадкі каляровых паэтычных і ўсё-такі незалежных птахаў, хто заспяваў па-свойму і выдаў свой зборнічак на роднай мове, быў аўтар з суседніх з Міхнаўкай Лешукоў — Тадэвуш Кунцэвіч, пасля — старажылка з Міхнаўкі Вера Радзіванюк — у пазамінулым годзе выйшла яе кніжачка вершаў. Летась — зборнік вершаў і песень Мікалая Варанецкага з Альхоўкі. Запісваюць свае думкі асобна, у самоце і пад родным сонцам, пасярод свойскага краявіду, і таямніча дзеляцца крышынкамі сваёй душы з чытачамі, высылаючы некаторыя творы ў «Ніву», але ўжо згуртавана паяўляюцца на завяршэнні Агульнапольскага конкурсу беларускай паэзіі і прозы «Дэбют», арганізаванага «Нівай». І старэйшыя, і маладыя нараўчанскія творцы, на школьным гмінным аранжавым аўтобусе. Бывае, што адна трэць удзельнікаў «Дэбюту» — з гэтае ваколіцы. Такая творчая грамадка — фантастычная візітная картка Нараўчанскай гміны — пра гэта добра ведае таксама войт Мікалай Павільч, які і сёння, у



**трэці дзень Вялікадня,**

3 мая, пастараўся быць у святліцы ў Міхнаўцы на ўрачыстай аўтарскай сустрэчы — прамоцыі кнігі «Сярод сваіх» Кастуся Целушэцкага, які выступіў са сваімі творамі, а падмацавалі яго яшчэ і Тадзік Кунцэвіч ды Вера Радзіванюк, у якой назбіралася новых вершаў ужо некалькі сшыткаў. Відаць, і гэтай вясной не перастае біць творчая крыніца з тутэйшай зямліцы. А госці па-змоўніцку перашэптваліся, што ведаюць яшчэ не аднаго тутэйшага паэта, якога варта выцягнуць з-за стала з поўнымі шуфлядамі і выявіць свету. Усе чулі. Бо ці ж не ведаў гайнаўскі віцэ-староста Андрэй Скепка, сусед Целушэцкіх праз вуліцу ў Ляўкове, каб таксама сёння знайсці час і наведаць Міхнаўку на ўрачыстасці, парадавацца поспехам суседа, аб тым, што майстар праз дарогу з'яўляецца таксама майстрам слова? Не толькі, дарэчы, беларускага?

Гаспадар ён, Кастусь, перш за ўсё.

— Я меў застацца на гаспадарцы. На гаспадара мяне шыкавалі... Кончыў сем класаў у Ляўкове... Я і цэпам малаціў з бацькам, і ўсё рабіў. У нас па-суседску быў сталяр, мне падабалася сталярская праца. Пайшоў у прафесійную „завадоўку" ў Гайнаўку. Бацька не вельмі хацеў, каб я ішоў вучыцца. На гаспадарцы трэба было памагаць. Правучыўся я тры гады ў Гайнаўцы. Стаў на працу, у Супрасль на мэблю. Са стажыроўкі ў Супраслі забралі мяне ў войска, у Мінск-Мазавецкі. Там служыў у ВСВ — у вайсковай жандармерыі. Пасля двух гадоў у арміі прыйшоў да Майсені, у ПЗГС, на Гурнае. Пасля СТВ — у вясковым транспарцэ, развозіў тавар па крамах, як канваент. А калі ў Гайнаўцы адкрылі Мэблі — пайшоў туды, атрымаў званне майстра-сталяра. Здаў кваліфікацыйны экзамен,

**стаў майстрам.**

— Добра працавалася. Калі пабудавалі „Кераміку" ў Старым Ляўкове, пайшоў я тады. І я на „Кераміцы" дарабіўся пенсіі. А як на той „Кераміцы" было — я ў вершы напісаў! Пра гліну, наш невычэрпны скарб. „Цэглу нашу ўсе знаюць, з яе будынкі прыгожыя маюць"... Стаў я там майстрам змены — брыгадзірам. А дома была гаспадарка, сталі гаспадарыць. І пабудаваліся на бацькоўскім...

...А пісаць пачаў я, пэўна запозна. Ужо не той розум, не тое ўкладанне... Але патрэбныя таксама і жыццёвыя веды, не толькі гульня словам. Так як тыя жорны круціць, каб мука пайшла спорна. Даўно мне хацелася штосьці напісаць. Задуму паэтычных сустрэч па гміне прыдумала згуртаванне „Ятрышнік", у якім дзейнічае Галена-Марыёля Рэент і мая дачка Альжбета Кунцэвіч. Дачка кажа: напішыце, тату, штосьці яшчэ для дзяцей. Я напісаў пра зайчыкаў. Па-беларуску. Дачка кажа: напішыце па-польску, бо можа яны не будуць разумець. Напісаў я больш. І так пачалося. Калі я паявіўся з братам у „Ніве" (быў па справах у Беластоку), быў ужо пасля сустрэчы ў святліцы з моладдзю. На тую сустрэчу трапіла радыё і тэлебачанне. Падабалася. А пасля спаткання ў „Ніве", першым друку, удзеле ў літаратурным конкурсе беларускай паэзіі і прозы „Дэбют" чалавек набраўся духу!

— Гэта калі абдумана штосьці, здаўна ходзіць па душы. Трапляюцца нейкія старыя сшыткі — а там таксама нейкія мае накіды. Бывала, напісаў, паклаў дзесьці і забыўся... А Марыся — знайшла! Часам зачатыя тэксты, незакончаныя. Адлежваюцца! Чытаю. І ў чацвёрты раз. Часам каб засяродзіцца, схаваюся ў катлоўню, каб спакойна пісаць...

Жыве Міхнаўка і суседнія вёскі, жыве і дзейнічае «Ятрышнік», жывуць людзі, якія ажыўляюць тутэйшы краявід родным словам.

**Тэкст і фота Міры ЛУКШЫ**

## Штотыдзень з „Нівай”

У шматлікіх вёсках Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета жыхары штотыдзень чытаюць „Ніву”, асабліва тыя, якія чыталі яе дагэтуль. Палюбілі яе яшчэ тады, калі вучыліся ў школе. Мелі яны добрага настаўніка беларускай мовы і ён патрапіў прывіць ім любоў да газеты на роднай мове. Некаторыя чытачы купляюць родны часопіс, бо падабаюцца ім артыкулы і допісы нііўскіх журналістаў і карэспандэнтаў. Купляюць і таму, што ў „Ніве” найчасцей могуць прачытаць пра сваю вёску, пра яе гісторыю ды яе жыхароў. Адным словам — са сваіх родных мясцін. Яшчэ іншыя, каб не забываць, як выглядаюць... беларускія літары. Наш родны часопіс адыгрывае вялікую ролю ў развіцці беларускай мовы. Ён гуртуе беларусаў і шмат што робіць дзеля таго, каб мы мацней і глыбей адчувалі сваю тоеснасць.

У Нараўчанскай гміне родны часопіс ахвотна чытаюць перш за ўсё ў Альхоўцы, Новым Ляўкове, Старым Ляўкове, Лешуках, Міхнаўцы, Нараўцы, Новінах, Плянце, Свінароях і Тарнаполі („Ніву” з календаром на 2016 год тут усе маюць). Купіць „Ніву” можна ў Нараўцы або ў Гайнаўцы (але, вядома, у Нараўку або ў горад трэба даехаць), можна зрабіць падпіску.

Я кожны чацвер або пятніцу еду ў Нараўку, каб у краме ГС купіць усе экземпляры новага нумара „Нівы” і запрапанаваць чытачам, між іншым, у Ляўкове, Ахрымах, Лешуках, Новінах, Плянце, Свінароях ды... у Нараўцы. Ахвотныя купіць беларускі штотыднёвік могуць гэта зрабіць таксама на пошце. Тут яго купляюць нашы верныя чытачы перш за ўсё з Альхоўкі і Нараўкі. Бывае, еду ў аўтобусе і сустракаю знаёмага. Зводжу размову, між іншым, на тэму, што ў новым нумары „Нівы” і ці ён яго ўжо мае.

У лютым, сакавіку і красавіку ды зараз у маі гэтага года беларускі штотыднёвік не адвозілі назад у Беласток, няма гэтак званых зваротаў — усе экземпляры куплены! Ну так ужо ёсць, што такі абавязак узяў на сябе радны і солтыс Новага Ляўкова. Ён „Ніву” мае заўсёды. Возіць з сабою ў сумцы. Гэта вядома не толькі ўсім ляўкоўцам (у мінулым годзе ды ў пачатку гэтага года прыязджалі да солтыса ў Новае Ляўкова купіць беларускі тыднёвік жыхары Ахрымоў, Лешукоў, Старога Ляўкова і Тарнаполя). Ён намераны распаўсюджваць „Ніву” покуль хопіць яму сіл. Ён даражыць і ганарыцца сваёй роднай газетай ад самых малых гадоў сваёй жыцця. Шукае людзей, якім „Ніва” дарагая. Яму прыемна і радасна, калі такіх сустрэне. Гэта падбадзёрвае яго да далейшых намаганняў.

**Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**

## СПАЧУВАННІ

Нашаму карэспандэнту **Міхалу Мінцэвічу** словы шчырага спачування з прычыны напаткаўшага Яго гора **— смерці Маці**

— выказвае рэдакцыйны калектыў „Нівы”.

# Велікодны звон званоў

Дваццаць трох званароў з Беларусі, Расіі і Польшчы прыняло ўдзел у сёлетнім VII Міжнародным фестывалі праваслаўнага звону «Аб'яўляе, усхваляе, заклікае» ў Супраслі. Паступіла каля сарака заявак на ўдзел у фестывалі, але частка заяўнікаў з-за ўсходняй мяжы не атрымала віз у тэрміне. Званары сваё майстэрства прэзентавалі на васемнаццацівечнай званіцы манастыра Дабравешчання Багародзіцы, дзе падвешаны дзесяць званоў. Фестываль традыцыйна праходзіць на праваслаўным велікодным тыдні, калі па старажытным звычаі, кожны мог «званіць для славы Госпада». У гэтым годзе формула фестывалю была крыху зменена і з гэтага выпуску праводзіцца ён раз на два гады.



Арганізатарамі трохдзённага агляду (6-8 мая) былі Фонд «Ойкономос», Супрасльская акадэмія і Музей ікон у Супраслі — філіял Падляшскага музея ў Беластоку. Як нагадалі арганізатары ў запрашэнні, «царкоўны звон гэта знікаючая на польскіх землях традыцыя, якая заключаецца на стварэнні кампазіцый, адпаведных для рэлігійных патрэб, іграных на царкоўным званах». Яны падкрэслілі: «Захаванне знікаючых звычаяў, звязаных з духоўнай музыкай, а таксама праваслаўнай абраднасцю з'яўляецца важным элементам у захаванні культурнай самабытнасці нашага рэгіёна». У першы дзень фестываль суправаджаў сімпозіум «Сучасная кампаналогія». На другі дзень, журы пад старшынствам праф. Кшыштафа Кавальскага з Інстытута гісторыі Гданьскага ўніверсітэта, аўтара манументальных твораў пра званы, у рамках конкурсных праслухванняў былі ацэнены ўдзельнікі ў трох катэгорыях: юніёры (дзеці і падлеткі ва ўзросце да 16 гадоў), адкрыты (усе ахвотныя праверыць свае ўмеласці) і майстаркі (самы высокі ўзровень, прафесійны). Кожны з выканаўцаў мог паказацца каля дзесяці хвілін. Журы ацэньвала тэхніку выканання, гучанне, мастацкія ўражанні, усё па шкале ад нуля да дзесяці балаў. Адкрываючы фестываль **а. Андрэй Баркоўскі**, (на здымку) архімандрыт Супрасльскага мужчынскага манастыра Дабравешчання Дзевы Марыі, звярнуў увагу:



— Мы знаходзімся ў пасхальным тыдні. Можна было б спытацца: што робіць на плошчы нашага манастыра гэтая вялікая сцэна? (засела на ёй журы — М. Х.) Манастыр ператварыўся ў гэты момант у такую «эстраду», але гэта традыцыя велікоднага тыдня, у якім можна званіць кожны яго дзень. Мы стараемся даць тут і ў гэты час магчымасць славіць Уваскрослага Госпада. Гэта свайго роду выключэнне на працягу ўсяго года. Фестываль з'яўляецца формай заахвочвання, каб прыцягнуць маладых людзей, каб жылі пры Царкве, царквой, і, такім чынам праслаўлялі Бога.

**Ян Макаль** з Супраслі прымае ўдзел у фестывалі з самага пачатку. Быў лаўрэатам галоўнага прыза першага выпуску фестывалю. Пачаў званіць ва ўзросце сямі гадоў:

— На званах заклікаюць да нейкай мэты, гэта не проста ігранне. Гэта адбіванне спецыфічных рытмаў. У касцёле звоняць усім звонам, у тым ліку сэрцам, а у нас толькі сэрцам. У залежнасці ад момантаў літургіі або святаў звоніцца па-рознаму. Самым радасным і адчувальным кожным з нас звонам з'яўляецца пасхальны. Гукі званоў у Вялікую пятніцу і падчас пахавання характарызуюцца годнасцю, вольным рытмам і сумным тонам. І трэба ведаць, калі ўдарыць у звон. Практыка вучыць, што калі ідзе хросны ход, не трэба яе заглушваць. Трэба рэагаваць, глядзець, што адбываецца. Званы не толькі склікаюць у царкву, не толькі абвяшчаюць, але і выяўляць эмоцыі падчас набажэнстваў, свят. У кожнай краіне адрозная традыцыя звону. Калі прыязджалі званары з Масквы, яны былі здзіўлены тым, што мы звонім у час Сімвалу веры, на кожны артыкул веры. Званенне гэта адказнасць за званіцу і самі званы. Сапраўдны званар павінен перыядычна прыбіраць на званіцы і клапаціцца пра стан званоў. А маладыя дык зараз проста хочуць забегчы на званіцу, пазваніць сабе і выйсці. Яны думаюць, што калі звон разрэгулюецца, нехта іншы яго паладзіць.

20-гадовы **Даніла Скомін** з парафіі Іаана Багаслова ў Дуброве-Беластоцкай:

— Я заўсёды марыў, каб званіць у Супраслі, таму што манастырскія званы адзвоньваюць прыгожымі гукамі. У Дуброве званы падвешаны інакш. Можна выкарыстоўваць толькі вяроўкі, а тут вось і педалі, і ў нас толькі чатыры званы. Здаецца, у кожным прыходзе, наколькі я ведаю, усё па-іншаму. Званіць навучыў мяне сябар у трэцім класе гімназіі. Я не магу сказаць, чаму я люблю званіць, я проста люблю чуць гук званоў. Вучуся званіць, гледзячы як гэта робяць іншыя. У велікодным тыдні самае галоўнае званіць радасна і гучна.

14-гадовы **Грыша Васілюк** з Супрасля:

— Раней я прымаў удзел у фестывалі па-за конкурсам. Пачаў, калі мне не было яшчэ дзесяці гадоў. На супрасльскай званіцы можна дабіцца вельмі многа мелодый, значна больш, чым у іншых месцах. Тут я б'ю ва ўсе званы, апрача вялікага.

**Павел Паўлючук**, у гэтым годзе адзіны прадстаўнік Гайнаўкі, званар Свята-Троіцкага сабора:

— Гэта проста запал, які нагадвае мне пра традыцыі продкаў. З году ў год у званарскім конкурсе больш катэгорый, павышаецца ўзровень і павялічваецца лік удзельнікаў. Расце канкурэнцыя.

**Андрэй Анціпаў**, званар Праабражэнскага прыхода ў Калінінградзе:

— Ад двух гадоў я займаюся званеннем. Калі адкрылі наш храм, не было званароў, так што я пачаў у адзіночку. Зараз нас ужо чатырох. Першы раз я на такім фестывалі. Вельмі цікава ведаць, як звоняць у Беларусі і Польшчы. Яно крыху адрозніваецца ад нашага. Менавіта тут я ўбачыў, як звоняць на чатырох званах. Мы заклікаем на трох.

Яшчэ да пачатку спаборніцтваў на супрасльскай званіцы з'явіліся тыя, хто не прымаў удзелу ў фестывалі, але адчуў патрэбу ўдарыць у званы падчас велікоднага перыяду. Сярод іх быў **Рыгор Галубовіч**, былы супрасльскі радны:

— Калі я быў дзіцём, прыходзіў у царкву св. Іаана Багаслова, і часта званіў. Тады яшчэ жыў архіепіскап Міран. Мы разам званілі ў рытме — як сказаў айцец Мірон — «у храм ідзіце!». І зараз, пасля Вялікадня, калі можна пазваніць, і я сюды забег.

Вялікая група званароў прыехала на фестываль у гэтым годзе з Беларусі, у сталіцы якой ад шаснаццаці гадоў (з дня благаславення мясцовага мітрапаліта) працуе школа званароў, якую ініцыяваў Аляксандр Маліноўскі, і цяпер дзейнічае некалькі раскіданых па ўсёй краіне школ, якія вядуць яго вучні. Адной з іх з'яўляецца **Юлія Мінчанка**, удзельніца Супрасльскага фестывалю:

— Відаць, воля Божая ў тым, што званеннем займаюся ад сямнаццаці гадоў, значыць, больш за дваццаць гадоў. Стала гэта маёй прафесіяй. Ад дванаццаці гадоў працую ў гродзенскім кафедральным саборы. Ад шасці гадоў вяду ўласную школу званароў. Увесь працэс навучання падзелены на чатыры блокі. Першы ставіцца да ўсяго, што звязана з гісторыяй званарства, званоў і званарскага мастацтва. Другі — тэхнічны, навучанне самога звону. У рамках трэцяга займаемся музычнымі аспектамі, а чацвёрты звязаны з уставамі, гэта значыць усім тым, што звязана з багаслужбай. Званы лічыцца самым старым музычным інструментам. Званарства гэта мастацтва, а на пярэдні план выходзіць духоўны аспект, удзел званароў у служэнні Богу. Гэта місія. Чым большае наша мастацтва, тым больш людзей прыходзіць у храм, нават з цікаўнасці да званарства. Але калі казаць цалкам сур'ёзна, усё залежыць ад волі Бога.

**Віктар Нячаеў** з Мінска:

— Працэс навучання ў Мінскай школе званароў быў вельмі цікавым. Апрача вывучэння ўсяго аб званах і званенні, мы ў дэталях знаёміліся з літургіяй, царкоўнай гісторыяй і тэорыяй музыкі. Гэта дало велізарнае значэнне для майго духоўнага развіцця, больш чым для чыста музычнага.

**Анджэй Ляхоўскі**, дырэктар Падляшскага музея ў размове з «Нівай» выказаў упэўненасць у тым:

— Так я проста жартую, ці гэты сёмы выпуск не з'яўляецца прадвеснікам сямі чарговых худых выпускаў. Наадварот. Усё паказвае на развіццё фестывалю. Ён упісаўся ў падляшскую традыцыю і каляндар культурных падзей у нашым рэгіёне. Кожны год выканаўцы чакаюць запрашэння ў Супрасль. Фестываль ужо карыстаецца рэпутацыяй як сярод выканаўцаў, так і турыстаў. Гэтае мерапрыемства ўнікальнае ва ўсёй Польшчы.

У майстарскай катэгорыі першую ўзнагароду заваявала **Ганна Падрадчык** з Мінска, у адкрытай — **Уладзіслаў Каваленка** таксама з Мінска. У катэгорыі юніёраў найлепш паказаў сябе **Тамаш Васілюк**.

**Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА**



# Прасторы **Маргарыты Дмітрук**

**„У жыцці бываюць гісторыі, якія застаюцца ў памяці назаўжды", — кажа мастачка Маргарыта Дмітрук. У сваіх таямнічых і паэтычных карцінах прабуе захаваць перажытыя эмоцыі і ўспаміны. Цяпер яе працы можна аглядаць у Супрасльскай акадэміі.**

„Дом" — пад такім загалоўкам адкрылася выстаўка мастацкіх работ Маргарыты Дмітрук. У Супрасльскай акадэміі, пасля такіх гарадоў як Познань ці Варшава, карціны артысткі маглі пабачыць жыхары Падляшша. Як падкрэслівае Маргарыта Дмітрук, вяртанне ў родныя мясціны, не толькі ў мастацтве, мае для яе асаблівае значэнне.





— Я ніколі не эмігравала з Падляшша. Як гаварыў Сакрат Яновіч, Падляшша, гэта прадмесце Варшавы. Мне заўсёды залежала, каб паказваць свае працы тут, — кажа мастачка. — Гэтыя працы былі ўжо прэзентаваныя ў Варшаве, Познані... але дагэтуль не трапілі на маю радзіму. Таму я вельмі ўдзячна арганізатарам выстаўкі, дзякуючы якім у канцы я змагла іх паказаць таксама тутэйшым людзям.

Маргарыта Дмітрук нарадзілася ў Бельску-Падляшскім. З'яўляецца абітурыенткай Бельскага беларускага ліцэя, працягвала вучобу ў Мінскай мастацкай акадэміі і Акадэміі прыгожага мастацтва ў Варшаве, дзе і зараз працуе прафесарам на кафедры графікі. Выстаўку, якая адкрылася чацвёртага траўня, наладзіла Супрасльская акадэмія і Фонд „OIKONOMOS".

— Наша арганізацыя супрацоўнічае са шматлікімі цікавымі людзьмі. У нас ёсць такая ідэя, каб менавіта прамаваць людзей звязаных з нашым рэгіёнам, — сказаў арганізатар мерапрыемства айцец **Яраслаў Юзвік**. — Былі ўжо ладжаны выстаўкі прац Віктара Волкава і Аляксандры Чарняўскай. Цяпер разважаючы пра тое, каго варта было б запрасіць, пачулася прозвішча Маргарыты Дмітрук — выдатнай мастачкі, вядомай ва ўсёй Польшчы.

Дзясяткі людзей прыйшло ў Супрасльскую акадэмію на адкрыццё выстаўкі. Яны са шчырай цікавасцю глядзелі карціны Маргарыты Дмітрук. Адны знаходзілі ў іх каханне, смерць, нараджэнне, сяброўства, другія — бурныя пачуцці, заглыбленыя ў тыглі гісторыі, месцаў і мінаючага часу. На карцінах мінуўшчына пранікаецца з сучаснасцю. Кожная з прыбылых на выстаўку асоб працы мастачкі інтэрпрэтавала праз прызму свайго вопыту.

— Выстаўка — свайго роду заклік да таго, каб яшчэ раз задумацца: кім мы ёсць? Адкуль мы? — кажа наведвальніца выстаўкі **Анна Юзвюк**. — Мастацтва Госі Дмітрук прымушае нас да такіх паваротаў. Яе карціны — свайго роду заклік, які наказвае нам ніколі не забываць пра свае традыцыі і паходжанне.

Інтымная прастора Маргарыты Дмітрук сплеценая з усіх важных і менш важных здарэнняў, якія яна перажыла з дня нараджэння, з пачутых гісторый, прачытаных кніжак, пабачаных краявідаў, карцін, здымкаў, фільмаў. Яна створана праз культуру, у якой яна ўзрастала, час і месца, у якіх прыйшлося ёй жыць. Тая прастора — фарміраваная праз кантакты з блізкімі ёй людзьмі, з сям'ёй і сябрамі. А гэтыя маюць свядомасць таго, што з'яўляюцца часткай мастацтва Маргарыты Дмітрук. Таму так шумна праходзяць усе выстаўкі ейных прац на Падляшшы.

— Клуня, пакой, печка са шпагатам, дзе калісь сушылі вопратку, — паказвае на карціны былы настаўнік мастачкі **Сцяпан Бурыла**. — Гэта аддае такую цеплыню. Тут паказаны лёс чалавека, яго жыццёвая дарога. Цешуся, што Гося не забывае.

Хаця з аднаго боку дрэмле ў нас жаданне, каб дзяліцца сваім вопытам, з другога — адчуваецца патрэба, якая наказвае абараняць прыватнае жыццё. Маргарыта Дмітрук сваёй творчасцю раскрывае саму сябе і пакрысе ўсіх нас. І гэта вельмі важнае. Як падвёў Сцяпан Бурыла, калі не перакажаш сваёй гісторыі, тая гісторыя перастане існаваць.

Маргарыта Дмітрук выстаўку „Дом" намалявала ўспамінамі, штодзённасцю, але таксама смуткам і непакоем за будучае. Усе гэтыя пачуцці перакладаюцца на колеры, якія ствараюць непаўторнае мастацтва. Выстаўка будзе працаваць да 31 жніўня. Варта яе наведаць!

**Тэкст і фота Уршулі ШУБЗДЫ**

## Драўляныя дамы

У вёсцы Новае Ляўкова Нараўчанскай гміны ёсць 43 драўляныя дамы. У іх свойскі клімат. Яны найбольш прыязныя для чалавека. Хаты найчасцей былі пабудаваны з сасновых бярвён. Пры іх будавалі ганачкі (яны як месца адпачынку пасля працы). Архітэктурная разьба выступала каля калонак, на падстрэшніку, шчыце, вятроўках.

Дамы мелі трохшыбавыя вокны ды адно або два акенцы ў шчытах. Вокны ўпрыгожвалі пры дапамозе шалёўкі, ліштваў і аканіц. Знізу былі падаконнікі, па якіх сцякае з акон вада. У пасляваенны перыяд дахі дамоў былі крыты шэрай або чырвонай чарапіцай. Вуглы дамоў шалявалі гладкімі дошкамі і на іх набівалі арнамент, геаметрычныя фігуры, элементы раслін, выявы кветак або птушак. Некаторыя жыхары Ляўкова куплялі на вуглы дэкаратыўную драўляную разьбу.

Зараз бацькоўскія дамы перанялі іх дзеці і яны іх аднаўляюць. Інакш нічога б не засталося. Дзевяць хат зніклі бясследна. На іх месцы можна яшчэ сустрэць кусцікі бэзу, язміну або чаромхі. Гэтыя дамы з мінулага стагоддзя засталіся ў маёй памяці. Два з іх былі з ганачкамі. Пры дамах раслі ліпы, бярозы, ясені, вязы і вербы. Восенню было асабліва калярова.

Ды вось нешта памянялася ў Новым Ляўкове на лепшае. Дзве жыхаркі з Любліна намерыліся мець сабе новы драўляны дом у вёсцы. І ён вырас як грыбок пасля дажджу. Стаіць побач пару іншых дамоў на гэтак званай калёніі. Гэта мяне, солтыса Новага Ляўкова, вельмі цешыць. Пабудаваў гэты дом мой сусед.

## Белавежская дэмаграфія

У Белавежскай гміне Гайнаўскага павета ў 1970 годзе пражывала 3 566 чалавек, у 2000 годзе — 2 977 і ў 2010-2 310. Цяпер гміна налічвае 2 186 чалавек. Яна пастаянна абезлюджваецца. Шчыльнасць насельніцтва 11 чалавек на адзін квадратны кіламетр.

Да найбольшых вёсак у Белавежскай гміне належаць Белавежа — у якой пражывае 1 714 чалавек, Грудкі — 176, Чарлёнка — 84, Тэрамíскі — 75, Буды — 71 і Пагарэльцы — 58. Да найменшых пасяленняў належаць Звярынец — 5 жыхароў і Падцэрквы — 3.

Пяць гадоў таму ў Белавежы пражывала 2 310 чалавек (1 129 мужчын і 1 181 жанчына), у Грудках — 183, у Чарлёнцы — 93, у Будах — 83, у Тэрамісках — 79, у Пагарэльцах — 65, у Звярынцы — 5 і ў Падцэрквах — 4 асобы.

У мінулым годзе ў вёсках Белавежскай гміны згулялі сямнаццаць вяселляў. Сёлета свае „залатыя вяселлі" з нагоды 50-гадовага шлюбнага сужыцця будзе ладзіць адзінаццаць пар.

## Шыльда вісіць...

На скрыжаванні вуліц Гайнаўскай і Агародавай у цэнтры Нараўкі (Гайнаўскі павет) стаіць вялікі драўляны дом з нумарам 48. На вугле яго знаходзіцца вялікая шыльда з надпісам „ART. SPOŻYWCZE". Яна вісела і ў мінулым годзе, і зараз вісіць. Справа ў тым, што ў гэтым будынку такой крамы няма.

Некалі раней была тут прыватная крама. Цяпер у адным памяшканні гэтага дома часамі прадаюць кветкі ды ў другім ношаную заходнюю вопратку. Не прадаюць тут ніякіх прадуктаў харчавання, дык навошта вісіць тая шыльда. Навошта зводзіць пакупнікоў? Не ўсім прыезджым у Нараўку вядома, што шыльда толькі маніць. **(яц)**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

Зорка
для дзяцей і моладзі

# Конкурс і ўзнагароды, якія развіваюць!

Кожны конкурс ці выступленне трэба дзяліць з іншымі дзецьмі, сябрамі. Нельга абмежавацца ў сваіх мастацкіх дзеяннях толькі і выключна да сваіх амбіцый і эгаізму. Пра тое, што нашы выступленні сапраўды такія цудоўныя, дакажуць найперш нам сябры. Іх захапленне будзе нашым поспехам і сапраўднай радасцю, штуршком, каб далей нешта рабіць і развівацца...



Хлопцы як заўсёды падбівалі энтузіязм

Беластоцкія гімназісты вельмі хваляваліся, калі ішлі ў беларускі садок. Для многіх гэта была яшчэ сустрэча сентыментальная, вучні цешыліся, што могуць вярнуцца ў сваё прадшколле. Там спявалі, дэкламавалі малявалі. Там вучыліся выступаць на сцэне. Зараз, як гімназісты, прыйшлі прачытаць дзеткам беларускія казкі.

Ужо другі год запар у Беластоцкай гімназіі № 7 праходзіць конкурс чытання «Жыў дзед ды баба». Моладзь сама падабрала творы — беларускія казкі.



Лаўрэаткі ў садку

— Чаму казкі? Таму, што іх любяць усе, ды ў любым узросце, — кажа настаўніца Альжбета Рудкоўская, — гэта таксама ідэальны змест, каб праявіць сябе ў чытанні.

У конкурсе прынялі ўдзел усе гімназісты, а пераможцамі сталі Зося Конюх і Наталля Савіцкая; другое месца заваявала Бася Лук'янюк, трэцяе — Міхал Малясінскі. Усе яны чыталі казкі ў дзіцячым садку, а ўдзячныя і захопленыя старэйшымі сябрамі слухачы падарылі ім малюнкі. Пераможцаў чакала яшчэ адна арыгінальная і няпростая ўзнагарода — запіс на Радыё Рацыя. Усе чытанні будуць агучаны ў дзіцячай перадачы, якую вядзе Альжбета Бура.

Паслухайце і самі ацаніце!



Зося Конюх на радыё Рацыя

*Міра ЛУКША*

## Баабаб

*Моцны, тоўсты і стары
баабаб расце ў жары.
Не меншы ён ад секвой.
Запускае корань свой
кіламетры ў зямлю.
Старажытны помнік ён,
на Зямлі вякоў спакон.
Ведалі вы валатоў,
жыўшых 5150 гадоў?
А ў абхваце — дзевяць метраў?
Што над хмарамі ў паветры?
Калі яго абдзяру —
новую вырасціць кару.
Калі нават упадзе,
надалей усё расце,
калі корань хоць адзін
дакранецца да вады.
А ў дупле хоць ты жыві,
аўтастанцыю зрабі
(у Зімбабве ёсць такая,
што аўтобусы ўязджаюць!).
Корміць, лечыць ён пладамі,
карой, кветкамі, лістамі.
Малпы і людзі паважаюць,
баабаб той велічаюць.
Хай расце ён, баабаб,
афрыканскі жывы скарб.*

**Дамініка СІКОРА**
**Новая Воля, ПШ у Міхалове**

## Лялька

**Лялька... лялька,
Гэта мая найпрыгажэйшая забаўка,
Заўсёды мяне слухае, нічога не гаворыць,
Для адных гэта толькі цацка,
Для другіх гэта найпрыгажэйшая забаўка.
Не гаворыць, не смяецца,
Без цябе не зварухнецца... яна чакае.
Вочы ў яе найпрыгажэйшыя,
Глядзіць яна ў даль,
Заўсёды чакае цябе,
Заўсёды адданая толькі табе.
Кахае цябе і ніколі не пакрыўдзіць
Гэты найпрыгажэйшы сябар дзяўчынкі.**

## Загадкі з роднай хаткі

## УВАГА КОНКУРС! № 20-16

Разгадайце загадкі, адказы дашліце ў „Зорку" да 22 мая 2016 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Лёс такі ўжо, пэўна мой,
Я расту ўніз галавой.
Добра сонца прыпячэ,
Задзень вырасту яшчэ.
Я вясной-краснай растаю.
Што за я, хто адгадае?
Ц.....**

**(У. Мацвеенка)**

**Адказ на загадкі № 16-16: навальніца.
Узнагароды, аўтаручкі, выйгралі Оля Федарчук, Магдалена Гарустовіч, Шыман Івановіч з НШ свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку, Міхал Тапалянскі з Нарвы, Карнэлія Барэчка з Нараўкі. Віншуем!**

(малдаўская казка)

# Як браты бацькаўскі скарб знайшлі

Жыў калісь адзін чалавек. У яго былі тры сыны. Яны былі дужымі і прыгожымі, аднак не любілі працаваць. Усё за іх рабіў бацька: абрабляў поле, даглядаў сад і агарод. Хлопцы тым часам выседжвалі пад дрэвам, збівалі лынды, летуценілі.

— Чаму не дапамагаеце бацьку? — пыталі іх суседзі.

— А навошта, — адказвалі, — наш татка з усім паспявае.

Пасля бацька пастарэў і аслаб. Увесь сад зарос пустазеллем. Сыны гэта бачаць, аднак нічога не робяць. Рукі да работы не прыстаюць.

Захварэў бацька, не можа з пасцелі падняцца. У хату завіталі нястачы, сум і бяда. Няма хлеба, няма солі, няма віна. Паклікаў да сябе сыноў бацька і кажа:

— Ну, сыночкі, хутка памру я. Як вы без мяне жыць будзеце?

Заплакалі сыны. Пасля адазваўся старэйшы брат:

— Скажы нам, татка, штонебудзь! Парай як жыць. Што рабіць?

— Добра! — адказаў бацька. — Ведаеце, што працаваў я дзень і ноч. Усё дзеля вас. За гады я сабраў для вас вялікае багацце — гаршчок з золатам. Закапаў я гэты гаршчок побач хаты, толькі… не памятаю ўжо ў якім месцы. Шукайце мой скарб і тады будзеце жыць у радасці і дастатку.

Развітаўся бацька і памёр. Пасля смерці старэйшы сын кажа:

— Трэба скарб адкапаць, а то голад у вочы заглядае.

Узялі браты рыдлёўкі і сталі капаць ямкі ля хаты. Капалі яны, капалі, аднак гаршка з золатам не знайшлі. Тады сярэдні брат кажа:

— Калі мы будзем капаць без плану, ніколі нічога не знойдзем. Давайце лепш раскапаем усю зямлю вакол хаты.

— Давайце!

Сталі браты капаць як раіў сярэдні брат і зноў нічога не знайшлі.

— Эх! — кажа малодшы. — Давайце перакапаем зямлю яшчэ раз. Можа закапаў гэты гаршчок з золатам бацька надта глыбока!

Цэлы дзень шчыравалі пры рабоце, аж пра яду забыліся. Зямля зраблілася пульхнай, гатовай да пасадкі і сеяння. А гаршка з золатам як не было, так і няма.

— Відаць, тое золата дзесьці добра прыхаванае, — кажа старэйшы брат, — аднак шкада, каб наша работа прапала. Давайце пасадзім вінаград.

Пасадзілі яны вінаград і сталі даглядаць яго. Прайшоў нейкі час, вырас у іх вялікі вінаграднік. Вінаград быў салодкі і сакавіты. Сабралі браты ўраджай. Пакінулі сабе колькі трэба, а ўсё апошняе прадалі. За гэта атрымалі добрыя грошы. Тады старэйшы брат кажа:

— Нездарма мы раскапалі ўсю зямлю каля хаты. Мы там знайшлі скарб, пра які гаварыў наш татка.

**(пераклад з рускай мовы Ганны Кандрацюк)**



Фота Адама Паўлоўскага



**Рыгор САКОВІЧ, ПШ у Нараўцы**

## Мой клас

**У маім класе ёсць**
**дзесяць дзяўчынак**
**І пятнаццаць хлопцаў.**
**Усе мы добрыя сябры.**
**Разам спяваем, задачы рашаем.**
**Кніжкі чытаем.**
**Настаўнікі нас хваляць**
**І паважаюць,**
**А таксама добрыя ацэнкі**
**Нам стаўляюць.**

**Эмілія КАЗЛОЎСКАЯ Геранімова, ПШ у Міхалове**

## Сябар

**Не гэты што**
**з табой гуляе,**
**Не гэты што**
**з табой смяецца,**
**Але той,**
**з кім можаш паплакаць,**
**Сапраўдным**
**сябрам завецца!**

**Дамініка КАЗБЭРУК Кухмы-Петрукі, ПШ у Міхалове**

## Бегемот-гіпапатам

**Гіпапатам, гіпапатам!**
**Хто там крычыць гіпапатам?**
**Гэта я твой друг,**
**Гіпка-Крыпка!**
**Няма мяне дома,**
**Толькі не гавары нікому!**

## Вершы Віктара Шведа



### Праца пасля абеду

Настаўніца пытае:
— Даражэнькі Яцак,
Калі ты адрабляеш
Дамашнюю працу?

— Лаўлю абавязкова
Пасля абеду веды.
— Не маеш працы новай?
— Бо не было абеду!

### Найпрыгажэйшая матуля

Блізнюкоў двух вясёлых
Вярнулася са школы.
— Конкурс быў на занятках:
„Найпрыгажэйшая матка".

Галасы мы пачулі
На ўсе матулі,
А ты з матуль усіх
Атрымала два галасы.

# Польска-беларуская крыжаванка № 20-16

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Róg | As | | Kraj | Ar | | Bocian | |
| Ton | | Skarb / Noga | | | | | | |
| | | | Raj | | | Halo! | | Osa |
| Góra | | | | | Osa | | | |
| | Gaj | | | | Las | | | |
| Maj | | | | Koło | | | | |

**Адказ на крыжаванку № 16:**

Парон, яблык, круг, но, лес, вясна, журы, СМІ, жорны. Князь, парог, рог, вуж, мяў, сыр, ласы, ды, касміт.

Узнагароды, аўтаручкі, выйгралі **Аляксандра Лашэўская, Іван Карсунскі, Тамаш Мусюк** з НШ свсв. КіМ у Беластоку, **Сара Скаўронская** з ПШ № 4 у Беластоку, **Патрыцыя Бральская, Бартэк Кіяшко** з Шудзялава, **Караліна Каравай, Рафал Новік** з Нараўкі, **Ігар Кардаш, Тамаш Петручук** з Нарвы. Віншуем!

# Чаму я не паэт

Звоніць да мяне сябра і пытаецца, ці можа адведаць мяне пасля Вялікадня з жонкай і дзецьмі, бо ён дзеткам хоча паказаць паэта, значыць, мяне. Я напэўна цешуся, што сустрэну сябру са студэнцкіх часоў, які дзесяць гадоў назад выехаў у Варшаву і мы бачымся на Падляшшы раз на пару гадоў. Аднак хвалюе мяне, калі мяне называюць паэтам. Я паэтам зусім сябе не адчуваю. Слова „паэт” — надта вялікае для мяне слова. Паэтамі былі Міцкевіч, Славацкі, Пушкін, Ясенін, Лермантаў або нашы Багдановіч, Купала, Барадулін. Паэтамі былі Стахура, Ваячак і паэтамі з’яўляюцца Віктар Швед, Юрый Баена, Ян Чыквін ці Уладзімір Саўчук, але не я — маленечкі, шэры нічым капелька вады, чалавек. Паэт заўсёды мне асацыяваўся з чалавекам, які выбягае сваімі вершамі далёка ў будучыню, словам, яднае пачуцці мільёнаў нацый на свеце. А мае вершы так звычайныя, як я сам.

Вядома, што для маіх аднавяскоўцаў буду звычайным Юркам, сынам Васі і Мані Буйнюкоў з Маліннік. Хаця мяне цешыць і ўзрушвае, калі пані Вера, жыхарка Беластока, а заадно мая зямлячка, ураджэнка Маліннік, хоча, каб падпісаць ёй свой навейшы зборнік „Непаўторнасць хвілін”. Я ўзрушваюся, калі пры гарбаце пані Вера паказвае мне мой верш, які выразала з часопіса „Angora”. Але я з паняй Верай не сустрэўся, каб чытаць свае вершы, але паўспамінаць яе слаўнага бацьку Андрэя Калішука, з якім я размаўляў пра бежанства ў 2000 годзе. Паўспамінаць яе маці, якая часта адведвала маю бабулю. Паўспамінаць яе добразычлівага брата Толіка і братавую Ольгу, якіх я вельмі люблю і вельмі прыемна ўспамінаю. Мяне размовы ды сустрэчы з простымі людзьмі больш падмацоўваюць, чымсьці з так званымі сапраўднымі паэтамі. Узрушвае мяне, калі ўспомню, як дзесяць гадоў таму ў Цэнтры праваслаўнай культуры чытаў я верш на роднай падляшскай гаворцы, а пасля падышоў да мяне старэнькі чалавек ды пацісnуў маю руку і падзякаваў мне. Або, калі будучы ў 2009 годзе на Брэсцкім унівесітэце, выстраілася вялікая чарга за маім зборнікам ды аўтографам. І калі пытаюць колькі мне заплацяць за зборнік, а я махаю рукою, бо мне не найважнейшыя грошы, але зацікаўленне чытача тым, што раблю. Для такіх хвілін хочацца пісаць і жыць.

І хаця з паэзіі хлеба няма, то не адным жа хлебам жыве чалавек. Я нікога не прымушаю чытаць мае вершы або наогул паэзію. Ёсць многа цікавых літаратурных жанраў, пісьменнікаў, што за ўсё жыццё, як бы ты не стараўся, не перачытаеш усяго. Але чытаць трэба. Чытаючы, чалавек развіваецца. Але я надалей не адчуваю сябе паэтам. Такім сапраўдным як Стахура, Ваячэк, ці Надзея Артымовіч, як хаця б мой сябра Радаслаў Галіцкі. Як я магу зваць сябе паэтам, калі з горада прыязджаю на вёску, абуваю гумафільцы, куфайку і дапамагаю бацьку выкідваць гной з хлява на гноераскідальнік. Або як па полі еду нашым „Уладзімірцам Т25 А”. Або калі еду з бацькам у лес, або сяку дровы. Тады я не паэт, я — гаспадар. Пушкін ці Міцкевіч не аралі поля, не выкідалі гною. Або калі іду на працу, то я не думаю пра паэзію, але проста клапочуся, каб добра мінуў мне працоўны дзень. І не паэт я ў краме, ці ў гіпермаркеце. Дарэчы, я ненавіджу пакупак і заўсёды высылаю сваю жонку, а сам нашу пакункі з аўтамашыны ў хату, каб жонцы было лягчэй. Ды і не паэт я, калі на кухні вару абед. Гэта ўсё рэальнае жыццё і сапраўды ў ім мала паэзіі.

Часам маю свае свята, калі дзеці просяць мяне на аўтарскую сустрэчу. Тады можа я і паэт, але не штодзень. Дарэчы, як нават сустрэнемся з сябрамі, то я ім не паэт. Для аднаго я сябра з дзяцінства, для іншага — з белліцэя, а для яшчэ іншага — сябра з праваслаўнага брацтва. Я, дарэчы, і не пхаюся быць паэтам. Я ніколі не лічыў, колькі напісаў вершаў, бо не ў колькасці якасць. Мяне няма на фейсе, не маю аўтарскага блога. Не пхаюся на сілу, дзе не трэба. Я проста Юрка з Маліннік і няхай так застанецца.

Юрка БУЙНЮК

# Дзесяць вершаў Андрэя Сцепанюка

Апошні нумар мінскага часопіса „Дзеяслоў” (№ 2, 2016) апублікаваў дзесяць вершаў беларускага паэта Андрэя Сцепанюка, які працуе дырэктарам ліцэя з беларускай мовай навучання ў Бельску-Падляшскім. Падборка вершаў апублікавана пад агульнай назвай „Абыякавасць цемры”.

Цыкл вершаў распачынаецца роздумнымі радкамі паэта пра тое: ці з таго, што было, застанецца. Паэт разважае, што застанецца Дзень, Ноч, Час. А яшчэ, як сказаў Стары чалавек, „смерць будзе”. А Бог яму адказаў, што яшчэ будзе і застанецца на зямлі вецер. А вось страфа пра „маладую дзяўчынку, якая сваёй усмешкай зачаравала Старога чалавека і мільганула белымі зубкамі і ўцякла” — гэта намёк на тое, што будзе старасць. А ўжо потым наступіць смерць. Дай Бог, каб дажыць да старасці, бо смерць — не выбірае, а найчасцей любіць маладых. Таму шчаслівы той чалавек, які дажывае да старасці, і бачыць Дзень, Ноч, Час.

Тужлівымі радкамі навеяны верш-памяць „Прызначэнне або непазбежнасць”. Гэта роздум пра маці і бацьку, гэта нават нейкае шкадаванне, што маці ніколі не бачыла мора, не лётала ніколі на самалёце, не ела марожанага ў цэнтры Варшавы... Аўтар падкрэслівае, што, менавіта ў цэнтры Варшавы, а не дзе-небудзь у Бельску-Падляшскім ці ў Беластоку. Хаця марожанае аднолькавае: ці ў Варшаве, ці ў Бельску-Падляшскім купленае. Бо жыла маці сваёй роднай сям’ёй, жыла на зямлі бацькоўскай сваімі хатнімі справамі, як і бацька, які верыў, што, калі пабудуе дом, то будзе жыць вечна. Але вечным, на жаль, нічога не бывае.

Дужа моцна аб сваім забыцці разважае аўтар у вершы „Я забыў цябе”, што нават не памятае „яркасці тваіх вачэй”. Але ў гэтых радках адразу адкрываецца сакрэт: вочы ў яе былі яркія. Далей паэт піша: „я забыў цябе, што не адчуваю звонкасці твайго голасу”. Вынікае: голас у яе быў звонкі... Значыць, аўтар радкоў памятае і ноччу, і днём пра яе, не забывае... і, нават, „ранкам пасля абуджэння”. Ён зманіў чытачам, што не памятае яе, а наадварот, у такім вершы шчыра прызнаўся, што ніколі ў жыцці не забываў пра яе...

І, як працяг папярэдняга верша, радкамі „пачакай мяне, не спяшай, не бяжы”, аўтар хоча падараваць кавалачак сонца, каб „апошнім яго промнем пагладзіць твае вочы і не застаць”. І ў наступным верлібры таксама роздум пра растань. Паэтава думка рэзка і даволі нечакана набірае круцізну: нараджэнне — бацькі (маці і тата) — каханая — растань — успаміны — жыццё... Такая круцізна не толькі не супрацьпаказана паэзіі, а яна ў самой натуры паэзіі, якая ўмее спалучаць блізкае і далёкае, быт і быццё, каб даць найбольшы прастор фантазіі чытача, ягонай здатнасці думаць, думаць вобразамі, актыўна, глыбока і творча. Круцізна думкі Андрэя Сцепанюка мае сваю логіку. Эмацыянальную логіку верша. Падобная логіка была ў Аркадзя Куляшова. Яна не плюсуе ўражанняў ці пачуццяў — яна дае іх у самым сціслым і эканомным выкладзе, але за імі ўвесь чалавек, увесь паэт, яго ідэалы і мэты, увесь вопыт яго жыцця, пражытага сярод людзей і з людзьмі: „Таму, калі прыйдзеш да мяне, а мяне не будзе — не чакай, а павер, што я тут быў”.

Верш „Блакіт неба”, прысвечаны памяці Сцяпана, адышоўшаму сябру-аднакласніку. Гэта сумны верш пра сябра і пра тое, што было. Наогул, былое вандруе з верша ў верш у Андрэя Сцепанюка. Яно і радаснае, і тужлівае, і вясёлае. Але ў гэтых дзесяці вершах — амаль у кожным паэтычным творы жывуць сонца ці сонечныя прамені, ці проста святло. Яны не даюць адчайвацца, не даюць старэць і памерці. Вось асобныя „сонечныя” радкі з розных вершаў:

1. „Адным рухам рукі патушы сонца...”.
2. „Падару табе кавалачак сонца...”
3. „Запалі святло, нагрэй вады...” і г.д.

Але пасля святла наступае цемра. Аўтар сцвярджае, філасофствуе, разважае, што „ў абыякавасці цемры будзем лепш бачыць сваю неабходнасць”. Цемра і неабходнасць. Спалучэнне, і папраўдзе, даволі незвычайнае. Але яно дапамагае перажываць і мысліць. Паэт актывізуе метафарычнае мысленне верша, прытым эфектна перадае карціну, думку, настрой. Часам чытач не здагадваецца, якімі радкамі і вобразамі завяршыць свой верш Андрэй Сцепанюк, на чым паставіць кропку. У гэтым ён і арыгінальны, у гэтым ён увесь сам, у гэтым і лінія яго творчасці. Паўтаруся — філасофская. Бо сістэма аргументаў і доказаў паэта ўсё ж пераважна лірычная на стыку думкі і перажывання, і значнае месца ў гэтай сістэме займаюць „хатнія” вобразы, тыя, якія яму заўсёды былі бліжэй, даражэй, цяплей. Магчыма, паэт і шкадуе „пяцьдзесят пражытых гадоў” і тых „белых суконак” і „рванага халату”, але ў гэтым ён бачыць сэнс жыцця, і нават у цемры — сваю неабходнасць.

Акрамя разваг абыякавасці, прызначэння, непазбежнасці, прысутнічаюць у вершах паэта і развагі пра недасканаласць.





Фота Міры Лукшы

Найперш, гэта недасканаласць „маіх рук”. Ну, чаго-чаго, а недасканаласць рук — гэта ўжо інваліднасць... тым не менш, паэт асмельваецца паразважаць пра недасканаласць „маіх рук”, бо яна баліць: „пальцаў пяць, плюс пяць — дзесяць толькі, а працы так многа...”. Працы многа — філасофствуе паэт, што не паспяваюць яе адолець дзесяць пальцаў на руках. Але ж ёсць яшчэ пальцы ног, яны нагадваюць паэту: „што яны таксама пальцы”. І тут аўтар верша, нібы іх папраўляе: „а баліць іх зямная недасканаласць”.

Андрэй Сцепанюк увогуле ўмее і любіць вызваляць ці папраўляць прытоеную ў словах сэнсавую пераносчасць, і стварае на яе аснове новыя вобразныя кантэксты. Паэт не саромеецца сказаць аб тым, пра што нават не хацеў казаць, ён жыве сённяшнім днём, бо „ўчора гэта ўчора, заўтра гэта заўтра”. Шэкспір некалі так абагульніў душэўныя якасці чалавека, яго псіхалагічны стан, што часам яны пачыналі жыць нібы самастойна, незалежна ад чалавека жыццём... Гамлет у славутым маналогу „Быць ці не быць?” кажа так: „Нас робіць баязліўцамі развага і вяне пад налётам думкі... адвагі нашае прыродны цвет...”. Вершы Андрэя Сцепанюка — гэта мысленне шырокімі маральнымі катэгорыямі, за якімі ўвесь чалавечы свет з усімі яго трагічнымі супярэчнасцямі: „ты — жыццё, а я — смерць...”.

Таму дзесяць вершаў Андрэя Сцепанюка ў „Дзеяслове” варта пачытаць і паразважаць аб нашым няпростым, складаным жыцці. І... атрымаць, вядома ж, духоўнае задавальненне.

Сяргей ЧЫГРЫН



# На Юр'я ў Семяноўцы

Геаграфічны слоўнік Каралеўства Польскага з 1889 года пра вёску згадваў даволі сціпла: „**Siemionówka, wieś i dobra nad Narwią, pow. wołkowyski, gm. Tarnopol, o 60 wiorst od Wołkowyska**". Бо ў той час Семяноўка была адной з многіх, не надта прыкметнай вёскай. Тады яшчэ не было там чыгункі, яна завітае пад Семяноўку ў 1906 годзе. І расславіць гэты тапонім у эпоху „дружбы народаў", калі назву вёскі прыме комплекс памежных перагрузачных рампаў. І ў эпоху „Другой Польшчы", калі назву вёскі прыме будаваны на Нарве вадаём.

У згаданыя геркаўскія сытыя гады ў Семяноўку было ў суткі бадай сем курсаў цягнікоў з Гайнаўкі. Тыя цягнікі „цягалі" ў тую ж Гайнаўку рабочых у тамашнія дрэваапрацоўчыя заводы і моладзь у тамашнія школы. І выцягнулі тую моладзь у шырокі свет. У 1990-я гады ў выніку гаспадарчых і дэмаграфічных змен цягнікі апусцелі і паволі пасажырскі транспарт на гэтай лініі кануў у Лету. А была ж яна, тая чыгунка, своеасаблівай пупавінай, якая звязвала ў той час Нараўчанскую гміну з вонкавым светам. Яна не займела нейкай асаблівай легенды, накшталт славутай амерыканскай дарогі № 66 з Чыкага ў Лос-Анджэлес, па якой амерыканскі Усход рвануў у напрамку амерыканскага Захаду.

З ходам часу ролю згаданай пупавіны стала прымаць на сябе ваяводская дарога № 687. Вікіпедыя: „**Droga wojewódzka nr 687 — droga wojewódzka w województwie podlaskim łącząca Juszkowy Gród z Nowosadami o długości ok. 25 km. Droga zaczyna się na skrzyżowaniu z drogą wojewódzką nr 686 w Juszkowym Grodzie, następnie biegnie m.in przez Bondary, okolice Zalewu Siemianówki i Narewkę, aż do skrzyżowania z drogą wojewódzką nr 685 w Nowosadach. Trasa charakteryzuje się głównie dużą liczbą przejazdów przez tory kolejowe, których jest sześć, z czego dwa przez czynne tory. Na odcinku Skupowo — Zwodzieckie trasa biegnie przez Puszczę Ladzką**". Гэты артыкул часткова згодны з праўдай, бо Лядская пушча знаходзіцца ў крышку іншым месцы. А вось на згадваным скупаўскім адрэзку гэтая дарога павінна быць абвешчана дарогай-музеем, помнікам антрапагеннай творчасці, так як помнікам прыроды лічыцца навакольная ёй там Белавежская пушча, берučы пад увагу прагрэсіруючую яе вось там непраезнасць. На Скупаўской паляне гэтая транспартная пупавіна паступова правальваецца пад зямлю, так як легендарныя грэшныя храмы. А яна ж спалучае з вонкавым светам пасажырскае насельніцтва Нараўчанскай гміны, у тым ліку і Семяноўкі...

З Беластока ў Семяноўку курсіруе яшчэ пасажырскі аўтобус, але едзе ён пасля поўдня. А каб раней дабрацца ў гэтую вёску трэба спрасонку рвацца першым аўтобусам у Навасады і там перасесці на іншы. Або можна загуляць у паломніцтва... Яшчэ курсіруюць аўтобусы з Беластока ў Ялоўку, якія часам заязджаюць у Бандары — адтуль у Семяноўку пад дзесяць кіламетраў. І першая палова тых кіламетраў — па ваяводскай дарозе менавіта № 687. Яна там, у вобрубе Лукі, пад зямлю не правальваецца, затое ж яе насціл прымае від старажыла з паўсюднымі маршчынамі і трэшчынамі.

У такое паломніцтва падаўся я ў дзень семяноўскага прыходскага свята, на Юр'я, 6 мая. Энцыклапедычны даведнік „Народная культура Беларусі": „Юр'я, Юрай, старадаўняе свята земляробчага календара. Адзначалася 6 мая (у праваслаўных) і 23 красавіка (у каталікоў) у гонар заступніка жывёлы і гаспадаркі Юр'я. Да Юр'евага дня прымяркоўваўся першы выган статка ў поле, „на юр'еву расу", якой у народных вераваннях надавалася цудадзейная моц. Вечарам напярэдадні Юр'я ўпершыню выводзілі на начлег коней: лічылася, што Юрай замыкае ваўкам раты і конскі статак з гэтага дня не рызыкуе стаць ахвярай драпежнікаў. Магічнымі захадамі суправаджаўся выган статка ў поле. Гаспадар тройчы абходзіў статак з запаленай грамнічнай свечкай. Гаспадыня абкурвала „жывёціну" святаянскімі зёлкамі. Пастух лёгка сцёбаў кожную жывёліну асвячонай на Вербніцу вярбінкай. На Магілёўшчыне тройчы абходзілі вакол коміна з лустай хлеба, прыгаворваючы: „Як печ стаіць на месцы, так і штоб скаціна хадзіла на месцы"; затым хлеб скармлівалі жывёле. На Гродзеншчыне, выганяючы жывёлу ў поле, у падваротні хлява клалі ў вывернуты кажух яйка і лусту хлеба так, каб жывёла абавязкова пераступіла іх: спадзяваліся, што коні, каровы і авечкі будуць ад гэтага такія сытыя і гладкія, як яйка. Пад уязную браму, праз якую праганялі жывёлу, клалі замкнутыя замком ніты ці замок. Паводле народных вераванняў, такая засцярога рабілася з мэтай замкнуць ваўкам зубы, зберагчы жывёлу ад звяроў. Юр'я лічылася святам пастухоў. У гэты дзень яны збіралі закускі ад гаспадароў і ладзілі на пашы пачастунак ды рабілі розныя захады, каб засцерагчы статак



Элемент вонкавага хатняга дэкору

ад упадку і мору...". З Вікіпедыі: „Раніцай, да ўсходу сонца, гаспадары абыходзілі свае палі з азімым жытам. З сабою бралі хлеб, соль, косці ад кумпяка, што на Вялікдзень свяцілі. Тыя косці закопвалі на полі ў асот, каб зелле не расло...".

Вялікая савецкая энцыклапедыя: „Георгий Победоносец в христианской религии святой. Церковная легенда рассказывает о казни Г. П. (около 303) в Никомедии (ныне город Измит в Турции) во время гонений на христиан при Диоклетиане (на территории Римской империи), о чудесах Г. П., в том числе о победе его над драконом. Первоначально считался покровителем земледелия, позднее феодалы в Европе создали культ Г. П. — святого патрона рыцарства. В Древней Руси Г. П. часто изображался на княжеских печатях и монетах, в царской России — на государственном гербе".

Праваслаўны каляндар: „После безрезультатных уговоров отречься от Христа император приказал подвергнуть святого различным мучениям. Св. Георгий был заключен в темницу, где его положили спиной на землю, ноги заключили в колодки, а на грудь положили тяжелый камень. Но Св. Георгий мужественно переносил страдания и прославлял Господа. Тогда мучители Георгия начали изощряться в жестокости. Они били святого воловьими жилами, колесовали, бросали в негашеную известь, принуждали бежать в сапогах с острыми гвоздями внутри. Святой мученик все терпеливо переносил. В конце концов император приказал отрубить мечом голову святому".



Энцыклапедычны даведнік „Народная культура Беларусі": „Ярыла, у язычніцкай славянскай міфалогіі бажаство вясенняй урадлівасці і плоднасці жанчыны. Слова „Ярыла" паходзіць ад кораня „яр" звязанага з вясенняй урадлівасцю (ярына, яры, ярыца). У часы хрысціянства Ярыла заменены святым Юрыем. Падобны богу славян Яравіту і германскаму Фро...". Вікіпедыя: „Дзяўчаты выбіраюць самую прыгожую, прыбіраюць яе Ярылам і садзяць на белага каня. Дзяўчыне даюць у адну руку чэрап, у другую — іржаныя каласы (першы атрыбут, верагодна, сімвалізаваў пераможаную зіму і ноч, другі — сілу жыцця і ўраджаю)...". Да шырокага спектру нашых тутэйшых веснавых абрадаў адклікаецца ладжаны бельскім Музеем малой айчыны фестываль „Там по маёвуй росі"... А ў Семяноўцы?..

Калісь гэты дзень быў там вялікім святам, на які збіралася мноства народу. Спадзяваўся і я пабачыць там такое мноства. Недзе перад дзясятай гадзінай раніцы паказалася мне пяць цацачнакандытарскіх ларкоў насупраць царквы, восем легкавушак і пяць веласіпедаў. У самой царкве сабралася каля трыццаці душ вернікаў. З ходам часу даходзілі-даязджалі туды чарговыя адзінкі народу і пад канец царкоўнай службы, магчыма, назбіралася там іх мо каля соткі. Дарэчы, пажылыя жанчыны ў бабінцы семяноўскай царкоўкі прыгадвалі той мінулы час, калі на іхняе свята збіралася процьма народу, калі фурманкі займалі вялікі шмат сённяшняй Школьнай вуліцы. А цяпер некаторыя мужчыны, не вельмі маючы з кім прывітацца, падавалі руку чужому ім мне...

Семяноўская мураваная царква невялікая, дакладная дата яе пабудовы невядомая — XVII або XVIII стагоддзе. А самастойны прыход быў створаны ў 1956 годзе і з таго часу яго настаяцелем служыць а. Мікалай Шэбелян. Адметны ён тым, што асноўнай машынай яго падарожжаў быў мотавеласіпед... І, здаецца, больш ён турбаваўся пра сваю паству, чым пра сябе... У 1957 годзе былі закладзены прыходскія могілкі, побач таго месца, дзе раней былі забытыя могілкі з часоў, калі Семяноўка была ў складзе Ляўкоўскага прыхода. Калі вёска апынулася ў Нараўчанскім прыходзе, пакойнікаў хавалі на нараўчанскіх могілках.

Побач невялікай царквы мажны школьны будынак, які быў пабудаваны з думкай пра навучанне дзетвары шматлюднай раней вёскі і яе наваколля. Зараз на двухпавярховым будынку былой школы шыльда Цэнтра экалагічнай адукацыі. Перад будынкам стэнд з экалагічнай прапановай. Прапанова ўключае пяць пешаходных трас па Белавежскай пушчы ў межах Нараўчанскай гміны; толькі адна з іх каля Семяноўкі, а чатыры значна ад яе далей: дзве каля Гушчэвіны і дзве каля Янова. І рэкамендуе *nordic walking*. Значыць хадзьбу з кіямі. З адмысловымі кіямі з металічнымі канцамі. Аднойчы ў Звярынецкім парку ў Беластоку я чуў такую хадзьбу, калі дзве панюсі невыносна грукаталі сваімі кіямі па жвіровай сцежцы. Калі б атрады такіх „вікінгаў" залілі сваім грукатным патопам узбярэжжа рэчкі Гвознай, было б гэта вельмі хіба экалагічным пушчанскім слухавішчам...

Ад экалагічнага цэнтра пракладзена дарожка да дамбы Семяноўскага вадасховішча. Калі я выйшаў туды прайсціся, пачуў даволі галосны гул — гэтак стагнаў чыгуначны насып пад коламі таварных цягнікоў, якія акурат міналіся на распаложаных пасярод вадасховішча мастах; цягнікоў з вагонамі-цыстэрнамі. Мяркую, што ў тых цыстэрнах было выключна экалагічнае змесціва. Можа з дзясятак гадоў таму прайшоўся я па тых пуцях і некаторыя шпалы былі там спарахнелыя да чыста сімвалічнай постаці. Сёлета не заглядаў я на пуці — каб не хвалявацца...

Прайшоўся я і па вёсцы. Пры расходных вуліцах геэсаўская крама. Перад крамай бяздзейна каратаді час два мужчыны. Адзін з іх нядаўна меў асаблівыя клопаты з асабістай навігацыяй, спатыкаючыся на звычайныя дойлідскія рыфы — пра гэта сведчылі свежанькія сляды бойкай сустрэчы ягонай галавы з вушакамі ці парогамі, а можа і ранейшымі вулічнымі бардзюрамі; некаторыя нашы тутэйшыя душы святкуюць і пакутуюць паўсядзённа, з карпатлівай аглядкай не толькі на святога Юр'я, але і на апякуну ўсіх чарговых дзён календара...

**Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

# Ад СТРАЎНІКА да ТОЕСНАСЦІ



Пра ролю ежы ў будаванні ўласнай тоеснасці я пераканалася, між іншым, збіраючы матэрыялы да цыкла нiўскіх артыкулаў «Кулінарныя вандроўкі ў часе і прасторы». І вось, гледзячы на свой халадзільнік, усведамляю сабе гэта зноў і зноў. І не ідзе тут толькі пра змесціва паліц у халадзільніку. Любы наведвальнік, адкрываючы дзверы маёй хаты, спярша вітаецца з левай сцяной той жа, даволі вялікіх памераў халадзільніка. І што бачыць? Каляровую карту міжваенай Польшчы, а дакладней — частку былой Гродзенскай губерні. Заўсёды можна праверыць як блізка са Слоі ў Адэльск ці куды вядзе непасрэдная шаша з Крынак у Гародню. Побач з картай вісіць копія першай старонкі кнігі „**Lud Białoruski na Rusi Litewskiej. Materiały do etnografii słowiańskiej zgromadzone w latach 1877-1893 przez Michała Federowskiego. Tom II. Baśnie, przypowieści i podania ludu z okolic Wołkowyska, Słonima, Lidy i Sokółki**" з падкрэсленнем менавіта Саколкі. Трэба заўважыць што менавіта гэтая старонка прыцягае ўвагу наведвальнікаў, у тым ліку, маладых манцёраў інтэрнэтнай сувязі з фірмы ў той жа Саколцы. Такім чынам атрымліваецца ў іх прымусовае знаёмства з творчымі і навуковымі дасягненнямі Міхала Федароўскага. Што сабе думаюць першыя лепшыя чытачы той жа старонкі, дакладна невядома. Спадзяюся, што толькі самае станоўчае. А яшчэ на тым жа халадзільніку красуюцца каляровыя, эфектна запрacктаваныя паштоўкі з беларускім колам святаў, выдадзеныя Грамадскай культурніцкай кампаніяй „Будзьма беларусамі". Каляды, Масленіца (па-крынску — Мясаед), Вялікдзень, Сёмуха, Купалле, Спас, Багач (крынскае прастольнае свята), Дзяды (якіх ніхто тут ужо не ведае). Усё гэта на фоне саматканых пакрывалаў, такіх, якія выходзілі з-пад рук нашых бабуль. Такая прыгажосць, немагчыма наглядзецца.

А што ўсярэдзіне?

На хвалі перадвелікодных, вясковых даследаванняў мне захацелася спячы велікодныя пірагі, сапраўдныя, проста з аповедаў найстарэйшых навакольных гаспадынь. Праблема толькі такая, што пякліі іх так даўно, што не ў змозе ўспомніць прапорцый інгрэдыентаў. Дзякаваць Богу, назаўсёды застаўся іх смак і пах, які і я мела нагоду пачуць, слухаючы сакавітыя аповеды старажылак. Не магла я сабе даравац найстарэйшых і найбольш характэрных для нашай кухні дражджовак. Пяку іх столькі гадоў, колькі хаджу з дыктафонам па вёсках. Зусім нясціпла прызнаюся, што мае суседзі, якія часта іх каштуюць, а помняць яшчэ смакі свайго дзяцінства, сцвярджаюць, што дасягнула я ў дражджавой галіне абсалютную перфекцыю, перарасла гісторыю. А вось на сёлетні Вялікдзень паявіўся ў маім халадзільніку сапраўдны пірог з сырам. Сырнікі прыжыліся пазней, чым дражджоўкі, не толькі ў мяне, але і ва ўсіх навакольных вёсках. І зноў нясціплае прызнанне — мой тварожны эксперымент, хаця першы, але зразу паспяховы. Усім, каму не прыйшлося пакуль рабіць такога пірага, раю неадкладна папрабаваць. Не сустрэлася я асабіста з вядзеннем кулінарных запісак сярод найстарэйшага, адыходзячага ўжо пакалення. Чула толькі, што варылі ўсё (вядома, жанчыны), праўда, адна лепш, другая горш. У такім выпадку абавязкова спаслацца на гены. Вось што падказалі мне мае руска-беларускія гены наконт праслаўленага апошнімі носьбітамі смаку і паху пірага на парашку з сырам. Замясіць пясочнае цеста з чатырох шклянак мукі (найлепш мерацць шклянкамі з чыгуначнага бара „Варс", сталовай „Сполэм" альбо „Грамады"), трох яек (вядома, свойскіх) і кавалка масла. Дабавіць парашок для пячэння — дзве гарбатныя лыжачкі і абавязкова дробку солі. Паставіць гэта ў халодную камору. Затым падрыхтаваць тварожны фарш з пяці яек размешаных да белага са шклянкай цукру, у тым ліку ванільнага, кавалкам масла, лыжкай мукі, дробкай солі і, вядома, кілаграмам тварагу, які абавязкова змалоць машынкай, набытай за 6 рублёў на базары ў Беластавіцы. Можна дабавіць яшчэ каплю любой, спажыўчай эсэнцыі. Выняць з каморы ахаладжанае цеста і падзяліць яго на дзве, больш-менш роўныя, порцыі. Адной выслаць бляху, а з другой зрабіць тонкія валікі на клетку наверх пірага. Пячыце ў тэмпературы 180 градусаў, пакуль клетка не зарумяніцца.

Пірагі разам з яйкамі з цыбульніку і грашыма паклала я ў валачобнае свайму хроснаму сыну. Вельмі яму спадабалася, так сама як супольнае валакальнае музыкаванне (у больш-менш традыцыйным варыянце з гармошкай і бубнам) і святочны шпацыр з яйкамі на могільнік.

Рэкамендую.

**Іаанна ЧАБАН**




# http://adnak.by

У гэтыя дні, сёмы год запар, у Беларусі праходзіць фестываль беларускамоўнай рэкламы і камунікацыі „Аднак!". Нельга сказаць, што за апошнія гады беларускамоўнай рэкламы стала значна больш, але ў тым, што яна адназначна заўважаецца, ёсць заслуга і гэтага фестывалю.

Калі ў маі 2010 года распачаўся конкурсны этап першага фестывалю, у „Ніве" з'явіўся артыкул аб сайце гэтага мерапрыемства, што месціцца па адрасе **http://adnak.by**. На ім пераважалі бела-чырвона-шэрыя колеры, выйсці да рубрык знаходзіліся ўверсе выяўлення. У рубрыках змяшчалася інфармацыя пра ўсе акалічнасці правядзення і ўдзелу ў фестывалі. Праўда, тады некаторыя выйсці закрываў сабой вялікі клічнік, з-за якога прайсці на іх было папросту немагчыма, што сведчыла аб недапрацаванасці сайта.

У параўнанні з тагачасным сайтам, цяперашняя вэб-старонка цалкам іншая, хоць адрас яе застаўся ранейшым. Яна зроблена ў адпаведнасці з сучаснымі павевамі сайтабудаўніцтва, дзе ўсе рубрыкі прадстаўлены адразу на галоўнай старонцы, якую трэба папросту „гартаць" зверху ўніз. Новы сайт, на жаль, таксама не абышоўся без недахопаў. Так, асобны раздзел „Адукацыйная праграма", выйсце на які знаходзіцца ўверсе цэлага выяўлення, аказваецца неіснуючай у інтэрнэце старонкай — так званай памылкай 404.

Яшчэ адным важным недахопам сайта з'яўляецца адсутнасць архіва. Навінныя паведамленні сягаюць толькі да 2014 года, такім чынам даведацца пра тое, хто ж перамагаў на фестывалі ў папярэдніх гады застаецца практычна немагчымым, калі не займацца адмысловымі пошукамі ў інтэрнэце.

Адзначым, што найбольшая колькасць паведамленняў на сайце тычыцца 2015 года. Навіна пра сёлетні фестываль ідзе першай у пераліку. Паводле размешчанай інфармацыі, ён мае назву „aDNaK — Ген беларускага крэатыву". Яго старт быў адзначаны прэс-канферэнцыяй напачатку мая. „Як пісалі СМІ 7 гадоў таму, правёўшы першы фестываль, „Будзьма!" запусціла рухавік беларускамоўнай рэкламы. Цягам гэтых гадоў мы імкнуліся акцэнтаваць увагу на розных момантах: і агулам вызначыць становішча беларускамоўнай рэкламы, і даць штуршок у развіцці рэкламна-камунікацыйнага рынку, і замацаваць беларускую мову ў сферы бізнесу як паўнавартасны і адметны сродак камунікацыі. У мінулым годзе мы надалі асаблівую ўвагу асобе самога рэкламіста. А ў гэтым годзе вырашылі зноў вярнуць увагу рэкламістаў і рэкламадаўцаў да больш глыбокіх, падставовых рэчаў: сапраўдныя шэдэўры можна ствараць толькі на грунце тысячагадовых каштоўнасцяў, якія ўжо закладзеныя ў нашых генах", — прыводзяцца словы каардынатаркі кампаніі „Будзьма беларусамі!" Ніны Шыдлоўскай.

Арганізатары фестывалю ўпэўненыя, што тэматыка аўтэнтыкі ўсё больш прываблівае беларускую моладзь, а бізнес, як мае быць, першым рэагуе на настроі спажыўцоў. „Ідэя гена беларускасці ў тым ці іншым выглядзе была асновай і Першага фестывалю, калі мы вылучылі беларускамоўную камунікацыю з усяго таго патоку рэкламы, што існаваў напрыканцы мінулага дзесяцігоддзя. Але сёння мы ўжо не рамантыкі-даследчыкі, сёння, калі мы кажам пра беларускамоўную і беларускаарыентаваную рэкламу, на першы план выходзяць эфектыўнасць праектаў і бізнес-вынікі, якія мы назіраем у гэтым сегменце ў сучасных эканамічных абставінах", — кажа сустаршыня аргкамітэта фестывалю Сяргей Скараход.

Каб прыняць удзел у фестывалі, трэба зарэгістравацца на даным сайце і праз яго падаць на конкурс сваю работу.

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

## Дата з Календара

Дата з Календара
Дата з Календара
Дата з Календара
Дата з Календара

Пісаў сам, вяртаў з нябыту творы іншых



## 80 гадоў з дня нараджэння

# Барыса Сачанкі

Беларускі пісьменнік, перакладчык і выдавец Барыс Сачанка нарадзіўся 15 траўня 1936 г. у вёсцы Вялікі Бор (Хойніцкі раён, Гомельская вобласць). Бацька, Іван Мікалаевіч, працаваў у хімлясгасе. Маці, Вера Міхайлаўна, працавала ў калгасе, але мусіла шмат клапаціцца пра дзяцей, якіх у сям'і было сямёра. У 1943 г. фашысты спалілі Вялікі Бор, у агні згарэла 128 аднавяскоўцаў. У чэрвені таго ж года Барыс, разам з бацькамі, быў вывезены ў Нямеччыну. Працаваў на ферме нямецкага земляробніка. Затым быў лагер для перамешчаных асоб. Амерыканцы агітавалі ехаць за акіян, але Сачанкі вярнуліся на радзіму ў 1945 г. У той жа год Барыс пайшоў у першы клас Вялікаборскай сямігодкі, а потым скончыў Хойніцкую сярэднюю школу, у якой таксама вучыўся Іван Мележ.

У 1955 г. Сачанка паступіў на аддзяленне журналістыкі філалагічнага факультэта БДУ, якое скончыў у 1960 г. У час вучобы ва ўніверсітэце пачаў працаваць у часопісе „Вожык", спачатку карэктарам, пасля фельетаністам. Друкаваць свае творы Барыс Сачанка пачаў яшчэ студэнтам. У 1956 г. часопіс „Маладосць" надрукаваў яго апавяданне „Плынь". У сааўтарстве з Янкам Сіпаковым і Рыгорам Барадуліным пад псеўданімамі І. Сібарсач ці Р. Сібарсач змяшчаў у „Вожыку" вострыя і надзённыя крытычныя нататкі, артыкулы, гумарэскі, сатырычныя замалёўкі.

У 1960-1976 гг. Сачанка працаваў рэдактарам аддзела прозы часопіса „Полымя", дзе яму першаму давялося чытаць і рэдагаваць „Палескую хроніку" Мележа. У 1976-1986 гг. — сакратар праўлення Саюза пісьменнікаў БССР. З 1986 г. — загадчык рэдакцыі перакладной замежнай літаратуры выдавецтва „Мастацкая літаратура". У 1993-1995 гг. — галоўны рэдактар выдавецтва „Беларуская Энцыклапедыя". Барыс Сачанка таксама быў дзяржаўна-грамадскім дзеячам. Браў удзел у працы 35-й сесіі Генеральнай Асамблеі ААН у 1980 г.

Барыс Сачанка аўтар 13 зборнікаў прозы, рамана „Чужое неба", трылогіі „Вялікі лес", кніжак гумару і сатыры „Вол-фігурыст", зборнікаў для дзяцей „Кошык малін" і „Бабка Адарка". Асобна вылучаецца тэма звязаная з малой радзімай пісьменніка — ёй прысвечаны цыкл „Палессе".

Вядомы Сачанка і як перакладчык. Перакладаў з сербскай, рускай, славацкай, польскай моў. Пераклаў на беларускую мову аповесць Я. Гуцалы „Школьны хлеб", П. Андрэева (П. Абрасімава) „Аповесць пра майго сябра", кнігу аповесцей і апавяданняў І. Андрыча „Трывожны год", п'есы А. Сальнскага „Барабаншчыца" і А. Галіна „Апошняе спатканне", паасобныя творы іншых аўтараў. Укладальнік кніг аповесцей і апавяданняў Я. Гушчы „Пан Грацыян і іншыя", Я. Івашкевіча „Дзяўчына і галубы", выбранай прозы М. Булгакава, Ф. Салагуба, Б. Пільняка, У. Набокава, зборніка паэзіі Ларысы Геніюш "Белы сон", 2-томнай „Анталогіі рускага савецкага апавядання" (1987). У часопісах „Полымя", „Маладосць", „Спадчына", штотыднёвіку „Літаратура і мастацтва" апублікаваў (з прадмовамі і каментарыямі) забытыя ці малавядомыя і зусім невядомыя творы Янкі Купалы, Якуба Коласа, Вацлава Ластоўскага, Казіміра Сваяка, Уладзіміра Жылкі, Уладзіміра Клышэвіча і іншых. Напісаў сцэнарый дакументальнага фільма „Алесь Гарун" (зняты ў 1990 г.).

Памёр Барыс Сачанка 5 ліпеня 1995 г. у Мінску. Пахаваны на сталічных Усходніх могілках. У 1997 годзе ў Мінску на доме, дзе жыў пісьменнік, была ўсталявана мемарыяльная дошка.

**Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

## Валянціна спявае ад душы

Валянціна нарадзілася і расла ў сялянскай сям'і ў Масеве, прыгожай ціхай вёсцы ў Нараўчанскай гміне. Вучылася ў школе ў сваёй роднай вёсцы. Яе бацька (ён родам з Масева) і маці (родам з Альхоўкі) прыгожа спявалі. Валянціна і яе чатыры сястрычкі таксама любілі спяваць. Песні ў хаце Ляшчынскіх часта было чуваць падчас сямейных сустрэч. Валянціна спявала ў школьным хоры. Ахвотна выступала сола. У школе даволі часта ладзілі акадэміі з нагоды розных святкаванняў.

Валянціна дапамагала ў працы бацькам і — ці то пасвячы кароў на выгане, ці то будучы ў полі — яна спявала свае любімыя песні. Спявала і слухала рэха, якое ішло далёка-далёка па лесе ад яе голасу (тут навокал лясы Белавежскай пушчы). Пільна прыслухоўвалася і пачынала спяваць так, каб было яшчэ лепш ды яшчэ прыгажэй. У ваколіцы прыгожы краявід. Сюды прылятае многа птушак, якія прыгожа спяваюць. А ў маі выводзяць саве чароўныя трэлі салаўі. Нагод для спявання было шмат. Было многа моладзі. Кавалеры часта ладзілі танцы ў мясцовай святліцы. Весела было!

Замуж пайшла ў Альхоўку за Яўгена Галабурду. Абое займаліся сельскай гаспадаркай. Зараз ужо не — муж заўчасна памёр. Валянціна не наракае на свой лёс. Жыве ў прыгожым прасторным доме з дачкой і зяцем. Кожны год садзіць кветкі, якія вельмі любіць. Удзельнічае ў гмінным конкурсе на найпрыгажэйшы кветкавы агародчык.

У пукатых сшытках беражэ ўласнаручна запісаныя песні. Беражліва захоўвае сшытак з песнямі сваёй маці. Многа іх ды на трох мовах, але найбольш рускіх і беларускіх. Жанчына спявае нават тады, калі агорне яе нейкі невыказны сум. І гэта дапамагае. Пераадольвае боль-сум і становіцца лягчэй на душы. Паціху заспявае сабе адной, калі ідзе спаць.


■ Валянціна Галабурда спявала ў святліцы ў Старым Ляўкове ў рамках конкурсу „Мікрафон для ўсіх"

Спадарыня Валянціна ахвотна прыязджае на сустрэчы і танцы, якія арганізоўваюць сеніёры. У праграме такіх мерапрыемстваў ёсць конкурс „Мікрафон для ўсіх". Вось і нагода для спадарыні Валянціны праспяваць свае задушэўныя песні (у яе іх многа). Усе слухаюць іх з трапяткім сэрцам. А спявачка выконвае за кожным разам усё іншыя ды іншыя песні. Яна мае такі прыгожы прыродны голас! Так і хочацца яе слухаць. Запрашаюць яе спяваць у „Нараўчанках" і ў „Цаглінках". Але як даехаць у Нараўку або яшчэ далей у Ляўкова. На рэпетыцыі можна было б даехаць у Нараўку аўтобусам (ад Альхоўкі пяць кіламетраў), але ўжо немагчыма вярнуцца ім назад дадому.

Калі ў Валянціны Галабурды ёсць вольны час, яна шые на машыне. Скроіць і пашые сабе новую блузку або сукенку. А для кожнай жанчыны гэта важна. Любяць фарсіць ды асабліва цёплай вясной ды летам.

**Тэкст і фота Янкі ЦЕЛУШЭЦКАГА**

## Лепш не хварэць

Апошнім часам пачало падводзіць здароўе. Справа доўжыцца ад снежня 2014 года, калі ногі прымарозіў. 20 снежня вяртаўся дамоў з Беластока. Неразважліва прастаяў на пероне, чакаючы цягніка больш гадзіны часу на скразняку. Наступнага ранку схапіў параліч. Здранцвеў левы бок. Вымушаны быў выклікаць хуткую дапамогу. Медык-выратавальнік прад'явіў дыягназ — пэўна будзе «рва кульшова». Зрабіў мне абязбольваючы ўкол і параіў накіравацца на амбулаторнае лячэнне да сямейнага лекара. І пачалася валакіта па спецыялістах: артапед і хірург у бальніцы ў Гайнаўцы, затым у артапедычнай паліклініцы ў Беластоку. Прасвятлілі ногі ад ступні па тулава, затым прасвятлілі пазваночнік. Паколькі медыкі паставілі дыягназ «мяжджыца» вялікага пальца левай нагі, дык зрабілі дабавачныя абследаванні. Нейкі час «фаршыравалі» мяне лякарствамі супраць гэтай хваробы. Безвынікова. Чарговы дыягназ: «дна мачанова». І гэты дыягназ аказаўся быць асечкай. Не перaлічыць колькі я непатрэбна выдаў грошай на лякарствы. А боль левай ступні па галёнку ўзмацняецца ўсё больш і больш. Медыкаментамі рознага віду расстроіў я сабе страўнік. На зломе лютага-сакавіка па гэтай прычыне трапіў у шпіталь. У час прыёму ў гайнаўскую бальніцу расказаў я дзяжурнаму лекару аб праблемах з хваравітай нагою і пазваночнікам. Але ніхто з лекараў на аддзяленні не звяртаў на гэта ўвагі. Зрабілі адно абследаванні па гастраскапіі і на гэтым справа закончылася. Ад 5 сакавіка па сённяшні дзень я прыкаваны да пасцелі. Апухлыя ногі і невыносны боль пазваночніка не дазваляюць варухнуцца нават у час спачынку. Большую частку Вялікадня правёў я «на белай зале», г.зн. у пасцелі. Зараз застаюся пад апекай сямейнага лекара. Санітарка кожны другі дзень прыязджае дахаты рабіць уколы. Сямейны лекар абяцаў, што калі амбулаторнае лячэнне акажацца безвыніковым, дык накіруе на шпіталізацыю ў Гайнаўку. І як тут жыць актыўнаму ніўскаму супрацоўніку, калі натура дарыць нам шмат цеплыні, квітнеюць сады і толькі цікавых падзей адбываецца ў наваколлі? Гэты допіс пішу на адвячорку праваднай нядзелі. У царкве ў Кузаве праходзіла багаслужба, прысвечаная памерлым, затым вернікі маліліся са святаром за суродзічаў на вясковым магільніку. А я не змог паехаць на магілу бацькоў і сямейнікаў. Не змог таксама паглядзець футбольны матч каманд «Калеяж» (Чаромха) і «Гетман» Беласток. Толькі перад маім акном мільгацелі ўпрыгожаныя каляровымі шарыкамі аўтамабілі. Значыцца, у Кузаве вяселле. Але я яшчэ жыву і не здаюся хваробе, хоць такога лёсу і такога болю не жадаю самаму большаму ворагу. Спадзяюся, што і да мяне аднак лёс усміхнецца і да святкаванняў 60-х угодкаў «Нівы» набяру сіл, каб супольна адзначыць так дастойны юбілей.

**Уладзімір СІДАРУК**

## Не аднолькава

Па даных Галоўнай статыстычнай установы (ГУС) у краіне зарэгістравана 1 826 тысяч мікрапрадпрыемстваў, якія даюць працу не больш чым дзевяці працаўнікам, у тым ліку 1 289 тысяч — гэта аднаасабовыя мікрапрадпрыемствы. У мікрапрадрыемствах зарплата невялічкая. Паколькі ў прадпрыемствах, у якіх працуе больш чым дзевяць рабочых, зарплата ў студзені г.г. складала суму 4101,36 зл., дык у мікрапрадпрыемстве не перавышала 2257 зл. брута. Працаўнік аднак на руку атрымліваў адно 1640 зл. Уладальнікі малых фірм нізкія зарплаты тлумачаць тым, што абцяжараны яны надта высокімі коштамі неадэкватнымі да коштаў вытворчасці. Самую высокую стаўку складае страховачная складчына ЗУС працаўніка 1100 зл. Прытым трэба прыбавіць кошт абслугі бухгалтарска-фіскальнага характару. Затым прадпрымальніку мікрапрадпрыемства не хапае грошай на прыбаўку зарплаты рабочаму. Аднак і тут некаторыя знаходзяць «фортачку» для паляпшэння быту чалавеку. Прадпрымальнік, афармляючы работніка на працу, дамаўляецца, што раз у месяц будзе выплачваць працаўніку тысячу злотых у прыбаўку. І так вось справа маецца, калі рост падаходнага падатку і дабавачных абцяжарванняў з'яўляюцца неадэкватнымі да кошту вытворчасці.

**(ус)**

# 15.05 — 21.05

**(22.03. — 20.04.)** 14-18.05. не распавядай на працы аб сваіх асабістых справах, каб хто не выкарыстаў інфармацыі супраць цябе. Час добры ў пачуццях для таго, каб прабаваць, а не думаць, што было б калі... У адносінах з сябрамі ясна скажы, колькі ты ў змозе ім ахвяраваць, бо некаторыя ўхопяць не палец, а ўсю руку. Не прывязвайся да таго, што маеш, бо чакаюць раптоўныя змены; у гэты раз не спадзявайся падтрымкі кагосьці ўплывовага (у якога самога будуць праблемы). Падаруй ачышчальную, дэтаксікацыйную курацыю сваёй пячонцы.

**(21.04. — 21.05.)** Зоркі табе спрыяюць, таму выйдзі шчасцю насупраць і не змарнуй ніякай нагоды. Многа энергіі ад Сонца; парабі парадкі, зрэалізуй сваю шалёную мару, якую адкладваў на пасля. Будзеш таксама вельмі працавіты. 14-17.05. горача ў пары. Вечары і выхадныя поўныя ўражанняў і прыемнасцей. 14-18.05. будзеш запрошаны на размову наконт працы — на «добры дзень» не патрабуй зашмат.

**(22.05. — 22.06.)** Пасля 20.05. зоркі памогуць табе аформіць старыя справы наконт спадчыны і маёмасці, пааплачвай даўгі. Перад атакай канкурэнцыі добра падрыхтуйся. Да 22.05. пераканаешся, чаго ты варты — ты лепшы чым думаеш. Можаш раптам атрымаць прапанову вельмі добрай працы. Можа пабольваць табе галава, ад нерваў, але міне гэта 20.05. Еж вітаміны (асабліва з групы В), пі многа вады, не галадай.

**(23.06. — 23.07.)** Без праблем здабудзеш тое, на чым табе залежыць. Працягвай пачатыя справы. Вызнач сабе новыя мэты. Не турбуйся грашыма. Цяпер добра заснаваць свой бізнес Нават калі трэба будзе вярнуцца да некаторых спраў, пойдзе табе гэта да дабра. 15 мая будзеш мець шанц на дадатковы заробак або выйгрыш — бяры, не аглядайся!

**(24.07. — 23.08.)** Да 20 мая можаш разлічваць на карысны абарот спраў. Могуць прытрапіцца кампанейскія дробныя непаразуменні (з 20.05. нават канфлікт). Пасля 20.05. звярні большую ўвагу на сямейныя справы, але важныя рашэнні адкладзі на пасля. Але будзеш мець падтрымку ў фінансах. Зоркі спрыяюць рэалізацыі доўгатэрміновых планаў.

**(24.08. — 23.09.)** Вызначы мэту, абяры стратэгію і рушай уперад. Будзеш мець адвагу, энтузіязм, трываласць, дойдзе яшчэ і фантазія. З 17.05. (да 27.05.) не рашай важнага, бо дробная памылка можа многа каштаваць. Калі чакае цябе кваліфікацыйная размова, добра падрыхтуйся, бо прагучаць нестандартныя пытанні. Пільнуй, каб не прапаў якісьці важны дакумент. 17-23.05. будзе турбаваць цябе нават драбяза, глянь на ўсё з іншай перспектывы.

**(24.09. — 23.10.)** 15.05. руш на пакупкі, будзеш мець нос для добрых нагод. 14-16.05. наладзіш добрыя знаёмствы, закончыш доўгія спрэчкі. Да 19.05. добрыя нагоды, каб рэвізаваць свае погляды і перакананні. Пасля 20.05. пазнаёмішся з вельмі цікавымі людзьмі, якія ў тваё жыццё ўнясуць энергію. Але з 15.05. (аж да 27.05.) будзеш рабіць грубыя памылкі-гафы, асабліва ў кантактах з жанчынамі.

**(24.10. — 22.11.)** Усе вочы — на цябе, і ад цябе залежыць, якое ўражанне выклічаш. 14-17.05. пераканаешся, колькі ў цябе сяброў. 18.07. непаразуменне ў сям'і, асабліва з жанчынамі. Не пераймайся фінансамі — сваё заробіш тады, калі трэба. З 20.05. (да 31.05.) шэф папракне цябе ў памылках, якіх ты не зрабіў.

**(23.11. — 22.12.)** 15.05. абмінай шэфа здалёк, бо можаш трапіць яму пад гарачую руку. 20.05. прыгадаюць пра цябе ўсе знаёмыя і сябры. Выходзь з хаты, прымай запрашэнні, едзь на выхадныя за горад, весяліся. Магчымыя праблемы, але з імі справішся. Будзь памяркоўным ва ўсіх сферах жыцця. Лякарствам можа быць змена стылю жыцця і адмаўленне ад кавы, алкаголю і махоркі.

**(23.12. — 20.01.)** Да 18.05. атрымаеш важную інфармацыю, якую абавязкова выкарыстай. Могуць вярнуцца старыя праблемы. Поспех табе пісаны, але не дасягнеш яго адзін, памогуць блізкія. Людзям на табе залежыць. З 17.05. (да 27.05.) паявяцца шанцы на развой і здабыццё новых умеласцей. Больш варушыся!

**(21.01. — 19.02.)** Абы да 20.05.! І зараз убачыш свет у светлых колерах. Жыццё стане лягчэйшым і больш прыемным. Хаця на працы ці ў школе не вельмі лёгка і прыемна, а ўзнагародзяць кагосьці іншага. Вучыся: не трэба лішне хваліцца сваімі здабыткамі, пакуль іх не пакажаш шэфу. Пазычай толькі ў сям'і ці знаёмых.

**(20.02.—21.03.)** 15.05. твае спадзяванні могуць размінуцца з рэальнасцю. Дбай аб свае інтарэсы, правядзі змены, на якія табе дагэтуль не хапала адвагі. Не прапусці кахання і заробку. Рыбы з другой дэкады могуць цяпер мець спрэчкі і вострыя канфлікты — трымайце нервы на павадку. Упэўненасць дасць вам сілу.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

## Адгаданка Адгаданка Адгаданка

1. Пятро, беларускі паэт (1905-1969), 2. зялёная раслінная выспа на пустыні, 3. урачыстае спатканне запрошаных гасцей, 4. вялікі амерыканскі горад над возерам Мічыган, 5. нагавіцы, 6. невялікі рэстаран з эстрадай, 7. мучны выраб з рэдкага цеста, спечаны па патэльні, 8. галоўны туркменскі горад, 9. частка вопраткі, што прылягае да шыі.

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — беларуская пагаворка.

**(ш)**

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1 | | | 2 | | | | | |
| | | | | 3 | | | 4 | | |
| 5 | | | | | | | | 6 | |
| | | | | 7 | | | | 8 | |
| 9 | | | | | | | | | |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 17 нумара**

Акенца, атака, Доўгае, паха, пеня, ярок.

Рашэнне: **Кароткая пацеха, а доўгае пакаянне**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Анне Дэм'янюк** з Бельска-Падляшскага і **Казіміру Радошку** са Свебадзіцаў.

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Мірaслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA" oraz „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA", „KOLPORTER", „RUCH" — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy" — kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:**
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 300 egz.

Спадчына

# Беластоцкія шляхі Георгія Пеха

Заснавальнік Ваўкавыскага краязнаўчага музея, археолаг і скульптар Георгій Пех (1897-1969) сёння амаль забыты і нідзе не прыгадваецца. А гэта быў даволі таленавіты, адукаваны і цікавы чалавек, які заслугоўвае светлай памяці. У 2017 годзе споўніцца 120 гадоў з дня нараджэння Георгія Пеха. Да гэтай даты вырашыў я сабраць яго артыкулы, даследаванні па археалогіі, пісьмы, фотаздымкі і выдаць асобнай кнігай.

Жыццё Георгія Пеха было звязана не толькі з горадам Луга Пецярбургскай губерні, дзе ён нарадзіўся, а таксама з Ваўкавыскам, дзе ён заснаваў музей, жыў і працаваў, але і з Беласточчынай. Яго бацька Іосіф Пех быў беларусам родам з Беласточчыны. У свой час бацька атрымаў прафесію тэлеграфіста і яго накіравалі на працу ў Пецярбургскую губерню. Ды і бацькаў бацька таксама быў тэлеграфістам. Таму і Георгій Пех атрымаў першую адукацыю, звязаную з тэлеграфам.

Перад Першай сусветнай вайной Іосіфа Пеха адкамандзіравалі кіраўніком тэлеграфа ў Свянцяны, куды ён пераехаў разам з усёй сям'ёй. Там Пех-старэйшы абслугоўваў участак чыгункі ад Нарвы да Панявежыса. Але хутка ён захварэў і памёр. Пасля смерці бацькі ў сям'і Пехаў, акрамя Георгія, засталіся яшчэ тры браты. Георгій працаваў тэлеграфістам, а потым паступіў у Віленскую тэхнічную школу, якую скончыў з адзнакай. Як выдатнага спецыяліста, яго накіроўваюць на працу ў Беласток — на радзіму бацькі. Там малады, высокі і прыгожы Георгій знаёміцца з Аляксандрай Чапчук. Дзяўчына працавала на прадзільнай фабрыцы і дужа спадабалася Георгію. Бацька Аляксандры — Сцяпан Чапчук усё жыццё размаўляў толькі на беларускай мове. А вось маці Аляксандры была полька, яна размаўляла па-польску. Але пражыўшы ўсё жыццё разам, бацькі кахалі адзін аднаго і добра разумелі, але часам размаўлялі між сабой на трасянцы.

Маладыя пажаніліся. І хутка Георгія Пеха, як спецыяліста, запрасілі ў Ваўкавыск, куды ён з жонкай і паехаў. Пазней да сына ў Ваўкавыск туды прыехалі яго маці з братамі.

У вольны ад працы час Георгій Пех цікавіўся краязнаўствам і археалогіяй. Ён пачаў даследаваць Ваўкавышчыну і суседнія паветы. У 1937 годзе Пех становіцца сябрам Польскага турыстычна-краязнаўчага таварыства.

Калі пачалася Другая сусветная вайна, Георгій Пех разам з сям'ёй пераязджае ў Беласток да жончыных сваякоў. Там Пех уладкаваўся на працу памочнікам машыніста на манеўровым паравозе. А жонка пайшла працаваць на мясцовы рынак. Яна гандлявала гароднінай, якую скупляла ў вяскоўцаў.

З радасцю Георгій Пех сустрэў выхад у Беластоку газеты „Новая дарога", якую рэдагаваў Хведар Ільяшэвіч. Ён пазнаёміўся з рэдактарам. Хведар Ільяшэвіч прапанаваў яму супрацоўнічаць з газетай і пісаць для яе гісторыка-археалагічныя матэрыялы. Пех пагадзіўся. І ў 1943 годзе на старонках „Новай дарогі" пачалі з'яўляцца артыкулы Пеха, якія ён падпісваў Юры Пех, Ю.Пех. Мне ўдалося пакуль адшукаць толькі тры яго матэрыялы ў „Новай дарозе" за 1943 год. Гэта артыкулы „Старадаўныя курганы Ваўкавышчыны" (8 жніўня, 1943 г.), „Старыя беларускія манэты" (12 верасня 1943 г.) і „Драгічын" (21 лістапада 1943 г.). „Драгічын" прапаную чытачам „Нівы".

**Сяргей ЧЫГРЫН**

■ На здымках: Пасведчанне Георгія Пеха, што ён з'яўляўся сябрам польскага турыстычна-краязнаўчага таварыства. Фота з архіва аўтара. Друкуецца ўпершыню.


Pan Jerzy Piech

Adres Wołkowysk
ul. St. Czarnieckiego 55

jest członkiem Oddziału P. T. T. K.
w Wołkowysku

Sekretarz Oddziału
pieczęć Oddziału
Prezes Oddziału

Podpis właściciela legitymacji

# Гарады і мястэчкі Беласточчыны ДРАГІЧЫН

Драгічын Бельскі або Надбужскі з'яўляецца адным са старадаўніх гарадоў Беларусі. Распаложаны на Заходнім Бугу, на рубяжы Мазавецкага княства, горад, дзякуючы свайму палажэнню й ажыўленаму гандлю, спрычыніўся да ўзбагачэння беларускіх земляў і спрыяў пранікненню сюды розных культурных уплываў.

Дзякуючы гэтаму Драгічын даволі рана робіцца вядомым, і ў XII веку ўспамінаецца ў розных дакументах ужо як умацаваны горад. У 1192 годзе Драгічын быў перададзены князем Усеваладам брату Ігару. Шырокія гандлёвыя зносіны Драгічына ў XIII стагоддзі звярнулі на сябе ўвагу мазавецкіх князёў, і ён трапіў у польскае валаданне.

У 1241 годзе, пасля спусташэння Уладзіміра-Валынскага княства, адзін з татарскіх аддзелаў на чале з Кэйданам, прасоўваючыся ў напрамку Горадні, па дарозе разбурыў Драгічын. У тым жа самым годзе ліцвіны таксама зрабілі напад на Уладзіміра-Валынскае княства і апанавалі разбураны Драгічын, ды не надоўга. Ужо ў 1247 годзе яны былі выгнаны ўладзіміра-валынскімі князьмі.

Нягледзячы на тое, што Драгічын вельмі часта змяняў сваіх гаспадароў, пераходзячы з рук у рукі то ліцвінаў, то палякаў, ён, дзякуючы свайму палажэнню на багатым водным шляху, заўсёды хутка адбудоўваўся, багацеў ізноў, а ўжо ў XVI стагоддзі дасягнуў свайго найбольшага росквіту, пасля чаго наступіў яго павольны ўпадак. Асабліва горад пацярпеў у часе шведскіх войнаў, а потым і зусім заняпаў.

Аб гандлёвых зносінах Драгічына ўжо ў XI стагоддзі сведчаць шматлікія археалагічныя знаходкі, якія знойдзены на яго гарадзішчы. Шмат з гэтых прадметаў, па-мастацку выкананых, выразна сведчаць аб зносінах яго ў той час з Усходам. Усе гэтыя знаходкі, пры параўнанні, выяўляюць ува ўсім падабенства з тымі, якія былі знойдзены на ўзбярэжжы Чорнага мора, а галоўным чынам на ўскраінах гор Керчы. Паміж знойдзеных вырабаў з бронзы і медзі, якія ўжываліся выключна для аздобаў, як напрыклад, галаўныя шпількі, заколкі, фібулы, завушніцы і да г.п., знаходзіліся бронзавыя крыжыкі. Адзін з такіх крыжыкаў з акруглымі канцамі меў пасярэдзіне ў квадратных касніках арнамент накшталт васьмілістовае краскі. Такі ж самы крыжык быў знойдзены і ў ваколіцах Кіева на левым беразе Дняпра, і ў Херсанэсе. Поўнае падабенства гэтых трох крыжыкаў сведчыць аб тым, што яны паходзяць з аднае мясцовасці, а іменна з Херсанэсу Таўрыцкага, які выраблялі падобныя крыжыкі ў XI стагоддзі.

Побач з прадметамі візантыйскае культуры тут былі знойдзены і рэчы заходнееўрапейскага паходжання. Гэтак, сярод бурштынавых вырабаў, пераважна пацеркаў, тут знайшліся бронзавыя і свінцовыя крыжыкі з подпісам „Crux" і іншымі лацінскімі выразамі.

Усе гэтыя знаходкі з'яўляюцца бясспрэчнымі дакументамі, якія сведчаць аб шырокім гандлі Драгічына з рознымі краінамі, у тым ліку і з Венецыяй.

Яшчэ адну асаблівасць драгічынскай старадаўнасці складаюць свінцовыя пломбы-пячаткі, якія сёння знаходзяць у вялікай колькасці. Пломбы, звычайна, знаходзяць на правым беразе Бугу, воды якога выкідваюць іх з руінаў старадаўняга гарадзішча. Яны ўпершыню былі заўважаны М. Амбражэвічам у 1864 годзе і перададзены для даследавання Віленскай археалагічнай камісіі. У 1890 годзе вядомы археолаг Н. Авэнарыус асабліва цікавіўся пломбамі і апісваў іх у сваёй працы „Дрогичин надбужский и его древности".

Гэтыя пломбы, папросту невядома якога прызначэння, маюць розныя знакі, з якіх некаторыя вельмі падобны да знакаў на цэглах цэркваў XI-XII стагоддзяў у Горадні.

Сярод знакаў звяртаюць на сябе ўвагу свастыка — старадаўні сімвалічны знак славянаў, які спатыкаецца на дне ахвярніцкіх кубкаў і знакі крыжоў, нагадваючых тыпы сярэднявекавых манет XI-XII стагоддзяў. Аднак, большасць знакаў складаецца з няякасных рысак і літараў кірыліцкага альфабэту таго часу. Злучэнні некаторых невядомых знакаў былі, відаць, радавымі гербамі.

Зусім праўдападобна, што пломбавыя пячаткі з'яўляліся гербамі розных князёў, пад уладай якіх знаходзілася драгічынская зямля. Чэшскі вучоны К. В. Цанц, а таксама Віленская археалагічная камісія, разглядаючы ўсе вядомыя ім пломбы, прыйшлі да вываду, што гэта мытныя кляймы або тамгі. Гэты погляд з'яўляецца найбольш праўдзівым, калі ўзяць пад увагу, што гандлёвыя шляхі ў Беларусі праходзілі якраз па басейнах рэк Заходняга Бугу і Нёмана. У Драгічыне дзеля гэтага павінны былі знаходзіцца мытныя ўрады, якія пасля звальнення ад мыта тавараў, зрывалі непатрэбныя пломбы. Цяпер, пасля многіх вякоў, воды Бугу вымываюць даўно забытыя прадметы, прыпамінаючыя далёкую мінуўшчыну і ўваскрасаючы славу Драгічына, адыграўшага немалую ролю ў справе цывілізацыі нашага народа ў найдаўнейшых часох.

**Георгій Пех, 1943 г.**

ISSN 0546-1960